*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 2 (1049) 11 СТУДЗЕНЯ 2012 г.**

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

У гэтым квартале адбылося чаканае сезоннае павышэнне колькасці падпісчыкаў, але яно аказалася не такім значным, як чакалася. Падпіска значна вырасла ў Баранавічах, Слуцку, Салігорску, Жыткавічах, Гародні. Па абласцях падпіска вырасла найбольш на Гарадзеншчыне і Віцебшчыне. Разам з тым працягнула падаць падпіска ў Магілёўскай вобласці. Раёнаў, дзе "Наша слова" не выпісваюць зусім, стала значна менш.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 13 | 16 |
| Бяроза р.в. | 8 | 10 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 20 | 16 |
| Ганцавічы р.в. | 2 | - |
| Драгічын р.в. | 1 | - |
| Жабінка р.в. | 2 | - |
| Іванава р.в | 2 | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 8 | 12 |
| Камянец р.в. | 5 | 2 |
| Кобрын гор. | 2 | - |
| Лунінец гор. | 3 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 3 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | - |
| Пінск гор. | 12 | 14 |
| Пружаны р.в. | 8 | 8 |
| Столін р.в. | 1 | - |
| **Усяго:** | **92** | **84** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 2 |
| Віцебск гор. | 23 | 27 |
| Віцебск РВПС | 1 | 3 |
| Верхнедзвінск р.в. | 5 | 4 |
| Глыбокае р.в. | 6 | 8 |
| Гарадок р.в. | - | 5 |
| Докшыцы р.в. | 1 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 1 | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 2 | 2 |
| Міёры р.в. | 2 | 2 |
| Новаполацк гор. | 15 | 22 |
| Орша гор. | 1 | 1 |
| Полацк гор. | 10 | 8 |
| Паставы р.в. | 15 | 8 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 5 | 6 |
| Шуміліна р.в. | - | 1 |
| **Усяго:** | **98** | **111** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 2 |
| Барысаў гор. | 6 | 5 |
| Вілейка гор. | 1 | 3 |
| Валожын гор. | 9 | 8 |
| Дзяржынск р.в. | 5 | 6 |
| Жодзіна гор. | 3 | 6 |
| Клецк р.в. | - | 1 |
| Крупкі р.в. | 3 | 2 |
| Капыль р.в. | 1 | - |
| Лагойск | 1 | 2 |
| Любань р.в. | - | 1 |
| Менск гор. | 296 | 288 |
| Менск РВПС | 12 | 14 |
| Маладзечна гор. | 16 | 15 |
| Мядзель р.в. | 3 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 5 | 5 |
| Нясвіж р.в. | 1 | 1 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 2 |
| Слуцк гор. | 6 | 15 |
| Салігорск гор. | 6 | 11 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 2 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 5 |
| **Усяго:** | **389** | **397** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | - | 1 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 2 | 1 |
| Гомель гор. | 34 | 35 |
| Гомель РВПС | 2 | 1 |
| Добруш р.в. | 1 | - |
| Ельск р.в. | 1 | - |
| Жыткавічы р.в. | 7 | 12 |
| Жлобін гор. | 1 | 1 |
| Калінкавічы гор. | 1 | - |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | 2 | 1 |
| Лоеў р.в. | 2 | 1 |
| Мазыр гор. | 3 | 2 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | - | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 2 | - |
| Рэчыцца гор. | 1 | - |
| Рагачоў гор. | 1 | 2 |
| Светлагорск гор. | 3 | 3 |
| Хойнікі р.в. | - | 1 |
| Чачэрск р.в. | - | 2 |
| **Усяго:** | **67** | **68** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 3 | 4 |
| Ваўкавыск гор. | 8 | 10 |
| Воранава р.в. | 5 | 5 |
| Гародня гор. | 35 | 40 |
| Гародня РВПС | 8 | 10 |
| Дзятлава р.в. | 15 | 15 |
| Зэльва р.в. | 3 | 4 |
| Іўе р.в. | 2 | 5 |
| Карэлічы р.в. | 9 | 7 |
| Масты р.в. | 6 | 5 |
| Навагрудак гор. | 7 | 6 |
| Астравец р.в. | 5 | 5 |
| Ашмяны р.в. | 5 | 8 |
| Смаргонь гор. | 7 | 8 |
| Слонім гор. | 11 | 15 |
| Свіслач р.в. | 5 | 5 |
| Шчучын р.в. | 4 | 5 |
| Ліда | 12 | 14 |
| **Усяго:** | **150** | **171** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 3 | 3 |
| Бялынічы р.в. | 1 | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | 1 |
| Кіраўск р.в. | 1 | 1 |
| Клічаў р.в. | - | 1 |
| Клімавічы р.в. | - | 1 |
| Касцюковічы р.в. | 3 | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | 1 |
| Крычаў р.в. | - | 1 |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 1 |
| Магілёў гор. | 61 | 51 |
| Магілёў РВПС | 2 | 3 |
| Асіповічы гор. | 9 | 9 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 2 | - |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | - |
| Чавусы р.в. | - | 1 |
| Шклоў р.в. | 4 | 7 |
| **Усяго** | **94** | **88** |
| **Усяго на краіне** | **890** | **919** |

ISSN 2073-7033




# 2012 год абвешчаны ў Беларусі Годам кнігі

2012 год у Беларусі абвешчаны **Годам кнігі**. Год кнігі аб'яўлены следам за Годам прадпрымальніцтва. Кіраўніцтва краіны спадзяецца павысіць ролю кнігі і чытання ў сучасным грамадстве. Цяпер Савет міністраў мае распрацаваць план мерапрыемстваў, якія пройдуць у яго межах. Дык, з чаго ж мы пачынаем гэты год?

## Наступ з двух бакоў



*Вынікі сацыялагічнага апытання, замоўленага СБП, каб высветліць, што, колькі і на якой мове чытаюць нашы суайчыннікі, выклікалі розгалас. Адно з меркаванняў размясціў у сваім блогу* ***крытык Павел Абрамовіч****:*

- Саюз беларускіх пісьменнікаў замовіў сацыялагічнае апытанне, па выніках якога высветлілася: 82% чытаюць кнігі на рускай мове і толькі 13,8% — па-беларуску. Пры гэтым 70% не ведаюць ніводнага сучаснага пісьменніка.

**Чаму такія вынікі?**

З аднаго боку, дзяржава імкнецца кантраляваць сферу беларускага кнігагандлю праз механізмы ліцэнзіяў, выдавецкіх планаў і цэнзуры; яна не аслабляе падаткі, не дае інвестыцыяў, дзічыцца найновых сродкаў камунікацыі, выдання і распаўсюду кніжнай прадукцыі; паўсюль тут пануюць бюракратыя, адсутнасць ведаў, густу і матывацыі. Больш за тое, улады задзейнічалі адміністрацыйны рэсурс, каб аддаліць ад людзей сапраўдную нацыянальную літаратуру — як класічную, так і сучасную, — падмяніць яе ідэалагічнай графаманіяй, паралізаваць працу нелаяльных пісьменнікаў і прыватных выдаўцоў.

Акром таго, у краіне не распрацаваныя нацыянальныя праграмы папулярызацыі чытання, зруйнаваныя перакладчыцкая школа і інстытут літаратурных крытыкаў. Распаўсюдам літаратуры па-за межамі краіны займаюцца, як могуць, Мінкульт і МЗС. Паўсюль галеча, неўладкаванасць: работнікі культуры ў сталіцы і рэгіёнах выбіваюцца з апошніх сіл, атрымліваючы мізэрныя заробкі за сваю працу; у дзіцячыя садкі бацькам даводзіцца несці свае кніжкі, бо іх настойліва просіць аб гэтым адміністрацыя, — гэта мела месца н-ават у часы беларускага "эканамічнага цуду".

Пры гэтым на дзяржаўным узроўні мовай зносінаў у сферы культуры, як і ва ўсіх іншых, застаецца пераважным чынам руская.

З другога боку, беларускія чытачы апынуліся ў палоне расейскіх выдаўцоў, якія свабодна пачуваюцца на нашай тэрыторыі. Адбылося гэта дзякуючы моўнаму фактару, моцным сувязям на ўзроўні "метраполія-правінцыя", наяўнасці вялікіх грошай у расейскіх літаратурных холдынгаў, неаслабнай падтрымцы рускай (і рускамоўнай) літаратуры з боку розных інстытутаў, у тым ліку мас-медыя, якія транслююцца на тэрыторыі Беларусі. Да таго ж расейскія выдавецкія групы могуць задаволіць чытацкі попыт на ўсе жанры масавай літаратуры, якая зараз дамінуе ва ўсім свеце, маюць рэзервы для якасных перакладаў замежных твораў розных узроўняў на сваю мову, спрытна друкуюць розныя даведнікі і энцыклапедыі. У гэтых варунках нядзіўна, што многія беларускія прыватныя кнігавыдавецтвы дзейнічаюць як расейскія філіі, а маладыя пісьменнікі Беларусі вырашаюць пытанне з моваю сваіх кніг на карысць рускай і адпраўляюць свае рукапісы ў Маскву і Санкт-Пецярбург.

Гэтую прыкрую сітуацыю можа змяніць толькі стварэнне эканамічна незалежнай дзяржавы ў нацыянальных формах — ўсё астатняе беларуская літаратура зробіць сама. Як магутная рака, на берагах якой нарэшце зруйнавалі хімічныя прадпрыемствы.

## Толькі 100 чалавек падпісаліся на поўны збор У. Караткевіча



- Падпісалася больш за сотню, сотня з нечым. Многія непакояцца, што апошні том выйдзе ў 2020 годзе. Маўляў, а ці дажывем, — кажа галоўны рэдактар выдавецтва "Літаратура і мастацтва" Віктар Шніп. І дадае, што яшчэ тысяча падпісчыкаў — бібліятэкі ды крамы.

Нагадаем, што па ўмовах падпіскі трэба ўнесці грошы за першы і апошні том і накіраваць у выдавецтва ліст з паведамленнем аб аплаце.

**Падпісацца на збор твораў Караткевіча можна да канца лютага.**

**Па ўмовах падпіскі трэба:**

Унесці аплату за першы і апошні тамы ў паштовым аддзяленні.

Кошт першага тома — 46 800 рублёў, апошняга (25-га) — 58 400 рублёў.

Тэрмін аплаты — да 1 сакавіка 2012 года.

Накіраваць у выдавецтва ліст з паведамленнем аб аплаце.

Інфармацыя аб выхадзе наступнага тома, кошце і тэрмінах аплаты будзе змешчана ў выдадзеным томе.

Пералік грошай па наступных рэквізітах.

УП «Мастацкая літаратура» 220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11, р/р 3012001483810 аддзяленне № 538 у г. Мінску, ААТ «Белінвестбанк», БІК 153001739, УНП 100055406 ОКПО 02477775, «Падпіска на творы Караткевіча». Даведкі па тэлефонах: 203 83 63, 226 66 16.

zvyazda.minsk.by


МІНІСТЭРСТВА СУВЯЗІ І ІНФАРМАТЫЗАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (Мінсувязі)

МИНИСТЕРСТВО СВЯЗИ И ИНФОРМАТИЗАЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ (Минсвязи)

Старшыні Грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Трусаву А.А.
вул. Румянцава
220034, г. Мінск

Аб выпуску паштовай маркі

Паважаны Алег Анатольевіч!

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь падтрымлівае Вашы прапановы і паведамляе, што тэматычным планам выдання дзяржаўных знакаў паштовай аплаты на 2012 год прадугледжаны выпуск паштовай маркі, канверта Першага дня і правядзенне ў г. Мядзелі Мінскай вобласці спецгашэння, прысвечаные 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Танка.

З павагай,

Намеснік Міністра М.М. Струкаў.



№ 2 (1049) 11 СТУДЗЕНЯ 2012 г. Наша слова

# Юбілейныя даты 2012 года

**1 студзеня** — 45 гадоў з часу заснавання выдавецтва **“Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”** (Менск, 1967 г.).

**2 студзеня** -- 80 гадоў з дня нараджэння **Базыля Белаказовіча**, польскага даследчыка беларускай літаратуры.

**3 студзеня** -- 75 гадоў з дня нараджэння **Васіля Сямёнавіча Гігевіча**, пісьменніка.

**6 студзеня** -- 120 гадоў з дня нараджэння **Адама Станкевіча,** беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, выдаўца, гісторыка, публіцыста, літаратуразнаўца, каталіцкага святара.



*Адам Станкевіч*

**8 студзеня** -- 110 гадоў з дня нараджэння **Сцяпана Ігнатавіча Карабана**, беларускага літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук.

**9 студзеня** -- 60 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Васілевіча**, беларускага фалькларыста

**11 студзеня** -- 75 гадоў з дня нараджэння **Міхася Уладзіміравіча Верацілы**, калекцыянера, краязнаўца, мастака, паэта.

**17 студзеня** – 280 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Аўгуста Панятоўскага** (1732-1798), апошняга Вялікага князя літоўскага і караля польскага, мецэната, які нарадзіўся ў Воўчыне Камянецкага раёна, дзе і быў пахаваны.

**18 студзеня** — 130 гадоў з дня нараджэння **Іосіфа Рыгоравіча Лангбарда** (1882—1951), архітэктара, аднаго з заснавальнікаў савецкай архітэктуры Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**20 студзеня** – 120 гадоў з дня нараджэння **Браніслава Адамавіча Тарашкевіча** (1892-1938), грамадскага палітычнага дзеяча, літаратара, акадэміка.

**20 студзеня** -- 120 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Раманавіча Шырмы** (1892 - 1978), беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, хормайстра, народнага артыста БССР і СССР, Героя Сацыялістычнай працы.



*Рыгор Шырма*

**28 студзеня** -- 300 гадоў з дня нараджэння **Ўдальрыка Крыштофа Радзівіла** (1712 - 1770), Дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, паэта, гісторыка.

**28 студзеня** -- 90 гадоў з дня нараджэння **Янкі Жамойціна** (1922-2003), беларускага і польскага журналіста, публіцыста.

**30 студзеня** – 90 гадоў з часу ўтварэння ў Менску **Інстытута беларускай культуры** (Інбелкульт).

**31 студзеня** – 120 гадоў з дня нараджэння **Алеся Кандратавіча Гурло** (1892-1938), паэта.

**31 студзеня** — 55 гадоў з часу заснавання **Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі** (адкрыты ў 1967 г., Мінск).

**2 лютага** -- 110 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Сымонавіча Грынкевіча** (1902-1945), беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, літаратара.

**4 лютага** – 125 гадоў з дня нараджэння **Фабіяна Гіляравіча Шантыра** (1887-1920), пісьменніка, публіцыста, грамадскага дзеяча.

**5 лютага** -- 70 гадоў з дня нараджэння **Міколы Жылінскага**, беларускага журналіста, пісьменніка, гісторыка, кандыдата гістарычных навук.

**8 лютага** -- 75 гадоў з дня нараджэння **Германа Іларыёнавіча Кірылава**, пісьменніка.

**13 лютага** -- 110 гадоў з дня нараджэння **Сымона Аляксеевіча Хурсіка** (1902-1972), беларускага пісьменніка.

**13 лютага** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Ўладзіміра Барысавіча Карпава** (1912-1977), беларускага пісьменніка.

**14 лютага** – 75 гадоў з дня нараджэння **Міхася Лявонавіча Стральцова** (1937-1987), пісьменніка, крытыка, перакладчыка.

**17 лютага** — 175 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Міхайлавіча Ельскага** (1837, Чэрвенскі р-н — 1896), вучонага біёлага, географа, геолага, падарожніка.

**18 лютага** -- 630 гадоў таму назад гвалтоўна загінуў у **Крэўскім** замку князь Кейстут, і пачалася 10-гадовая міжусобная вайна паміж Вітаўтам і Ягайлам.

**18 лютага** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Кліма Лазаравіча Грыневіча** (1912-1941), беларускага паэта.

**21 лютага -- Міжнародны дзень роднай мовы.**

**25 лютага** -- 110 гадоў з дня нараджэння **Янкі Геніюша** (1902-1979), беларускага лекара, бібліяфіла, мужа Ларысы Геніюш.

**26 лютага** – 80 гадоў з пачатку выдання газеты **“ЛіМ”** - органа Саюза беларускіх пісьменнікаў у 1932-2002 гадах.

**28 лютага** — 75 гадоў з дня нараджэння **Георгія Якаўлевіча Галенчанкі** (1937, г. Петразаводск), гісторыка-медыявіста, доктара гістарычных навук.

**29 лютага** – 140 гадоў з дня нараджэння **Вітольда Каятанавіча Бялыніцкага – Бірулі** (1872-1957), жывапісца – пейзажыста, народнага мастака Беларусі.

**Люты -- 590 гадоў** таму назад у Лідскім замку святкавалі вяселле караля **Ягайлы** і **Соф’і Гальшанскай**.

**3 сакавіка** -- 945 гадоў ад першага ўпамінання пра **Менск** у “Аповесці мінулых гадоў”.

**3 сакавіка** -- 75 гадоў з дня нараджэння **Мірона Бобера**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта.

**4 сакавіка** — 230 гадоў з дня нараджэння **Казіміра Ельскага** (1782, Пухавіцкі р-н — 1867), скульптара, першага прафесара ў Беларусі.

**5 сакавіка** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Аўгена Тодаравіча Калубовіча** (Каханоўскага, 1912-1987), беларускага гісторыка, літаратуразнаўца, палітычнага дзеяча.

**6 сакавіка** – 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Якубавіча Крукоўскага**, мастака – плакатыста.

**7 сакавіка** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Тараса Канстанцінавіча Хадкевіча** (1912-1975), беларускага празаіка, паэта, перакладчыка.

**10 сакавіка - 70** гадоў з дня нараджэння **Міхася Ткачова** (1942-1992), беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, гісторыка, археолага, доктара гістарычных навук, прафесара.



*Міхась Ткачоў*

**11 сакавіка** — 125 гадоў з дня нараджэння **Алеся Гаруна** (сапр. Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі, 1887—1920), пісьменніка і дзеяча нацыянальна-вызвольнага руху.

**11 сакавіка** -- 90 гадоў з дня нараджэння **Міколы Іванавіча Гамолкі** (1922-1992), беларускага празаіка, паэта, драматурга, перакладчыка.

**20 сакавіка** - 60 гадоў з дня нараджэння **Алеся Емяльянава** (1952-1995), беларускага паэта.

**22 сакавіка** -- 130 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Адамавіча Будзькі** (1882-1958), беларускага паэта, выдаўца.

**25 сакавіка - Дзень Волі.**

**31 сакавіка** -- 40 гадоў выдавецтву **“Мастацкая літаратура”.**

**1 красавіка** -- 150 гадоў з дня нараджэння **Адама Багдановіча** (1862-1940), беларускага этнографа, бацькі Максіма Багдановіча.

**1 красавіка** -- 140 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава Котвіча** (1872-1944), філолага-ўсходазнаўца, акадэміка Польскай Акадэміі навук.

**1 красавіка** -- 135 гадоў з дня нараджэння **Васіля Захаркі**(1877-1943), беларускага дзяржаўна-палітычнага дзеяча.

**2 красавіка** -- 170 гадоў з дня нараджэння **Францішка Нарбута** (1842-1892), удзельніка паўстання супраць Расіі ў 1863-64 гг.

**4 красавіка** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Адама Іосіфавіча Залескага** (1912-2002), беларускага гісторыка, этнографа.

**10 красавіка** -- 85 гадоў з дня правядзення ў Гародні з’езду актывістаў Таварыства беларускай школы.

**10 красавіка** — 75 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Фёдаравіча Спірыдонава** (1937, Бабруйск), кандыдата гістарычных навук.

**11 красавіка** — 85 гадоў з часу прыняцця Канстытуцыі Беларускай ССР (1927 г.).

**14 красавіка** — 35 гадоў з часу заснавання Музея беларускага народнага мастацтва, філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусі (в. Раўбічы, Мінскі р-н, 1977, адкрыты 12 снежня 1979 г.).

**16 красавіка** — 180 гадоў з дня нараджэння **Альфрэда Ромера** (1832-1897), жывапісца, мастацтвазнаўца, этнографа.

**18 красавіка** -- 125 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Дзеркача** (сапр. Зімёнка А.Р., 1887-1937), беларускага паэта, сатырыка, гумарыста.

**19 красавіка** -- 100 гадоў з дня нарадджэння **Леаніда Януаравіча Прокшы** (1912-1994), беларускага празаіка.

**26 красавіка** -- 150 гадоў з дня нараджэння **Яўстафія Арлоўскага** (1862-1913, беларускага гісторыка, педагога, краязнаўца.

**Красавік.** 25 гадоў з часу стварэння Беларускага фонду культуры (БФК) (Менск, 1987 г.).

**3 траўня -- 290 гадоў** з дня нараджэння **Станіслава Радзівіла** (1722-1787), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**9 траўня** – 75 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Васілевіча Бараноўскага**, мастака.

**9 траўня** – 75 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Цімафеевіча Мысліўца** (1987-1993), пісьменніка.

**15 траўня** — 130 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава Іосіфавіча Галубка** (сапр. Голуб), акцёра, мастака, першага народнага артыста Беларусі.

**15 траўня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Іверса** (1912-1999), беларускага паэта.

**20 траўня** -- 110 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Пушчы** (сапр. Плашчынскі І.П., 1902-1964), беларускага паэта, крытыка, перакладчыка.

**21 траўня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Вінара** (1912-1977), беларускага педагога, краязнаўца, стваральніка музея ў Любчанскай СШ (Навагрудскі р-н).

**22 траўня** — 50 гадоў таму пушчаны першы на Беларусі **атамны рэактар** у пасёлку Сосны пад Менскам.

**27 траўня** — 80 гадоў з часу ўтварэння Саюза беларускіх пісьменнікаў (1932 г.)

**27 траўня** — 75 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Восіпавіча Біча** (1937-1999), доктара гістарычных навук.

**30 траўня** – 85 гадоў з дня нараджэння **Вітаўта Кіпеля,** гісторыка, грамадскага дзеяча, старшыні Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ерку.



*Вітаўт Кіпель*

**30 траўня** — 70 гадоў таму (1942 г.) пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага створаны Цэнтральны штаб партызанскага руху на чале з П.К. Панамарэнкам.

**1 чэрвеня** -- 140 гадоў з дня нараджэння **Пятра Когана** (1872-1932), літаратуразнаўца, педагога, прафесара.

**7 чэрвеня** – 80 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Навумавіча Герчыка** (1832-2008), беларускага пісьменніка, публіцыста, перакладчыка.

**7 чэрвеня** — 75 гадоў з дня нараджэння **Пятра Фролавіча Дзмітрачкова** (1937, Хоцімскі р-н), гісторыка, заслужанага работніка адукацыі.

**8 чэрвеня** — 45 гадоў з часу заснавання Клічаўскага краязнаўчага музея (1967, адкрыты 10 чэрвеня 1969 г.).

**11 чэрвеня** — 55 гадоў з часу заснавання Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы НАН Беларусі (Менск, 1957 г.).

**6 чэрвеня** -- 310 гадоў з дня нараджэння **Міхала Казіміра Радзівіла “Рыбанькі”** (1702-1762), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, мецэната.

**16 чэрвеня** – 75 гадоў з дня нараджэня **Аўгусціна Лазаравіча Мілаванава**, акцёра, народнага артыста Беларусі.

**18 чэрвеня** – 80 гадоў з дня нараджэння **Галіны Аляксандраўны Барташэвіч**, фалькларысткі.

**19 чэрвеня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Пятра Бітэля** (1912-1991), беларускага пісьменніка, педагога, праваслаўнага святара.

**28 чэрвеня** -- 55 гадоў Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН.

**6 ліпеня** — 75 гадоў з дня нараджэння **Пятра Мікалаевіча Драчова** (1937—2005), мастака.

**7 ліпеня** — 130 гадоў з дня нараджэння **Янкі Купалы** (сапр. Іван Дамінікавіч Луцэвіч, 1882-1942), Народнага паэта Беларусі.



*Янка Купала*

**7 ліпеня** — 125 гадоў з дня нараджэння **Марка Захаравіча Шагала** (1887-1985), мастака.

**7 ліпеня** — 35 гадоў з часу заснавання Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ НАНБ (Менск, 1977 г., адкрыты 15 траўня 1979 г.).

**9 ліпеня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Адамавіча Астрэйкі** (1912-1937), беларускага паэта.

**10 ліпеня** -- 75 гадоў з дня нараджэння **Міколы Капыловіча** (1937-2002), беларускага пісьменніка.

**10 ліпеня** — 40 гадоў з часу адкрыцця Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка ў в. Вязынка Маладзечанскага раёна.

**12 ліпеня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Дзмітрыя Маркоўскага** (1912-1990), беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта, рэктара Гарадзенскага педінстытута ў 1955-73 гг.

**22 ліпеня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Марыі Магдалены Элізы Бутаўт-Андрайковіч** (1852-1933), беларускага жывапісца.

**25 ліпеня** – 80 гадоў з дня нараджэння **Зміцра Браніслававіча Смольскага**, кампазітара, народнага артыста Беларусі.

**28 ліпеня** -- 200 гадоў з дня нараджэння **Юзафа Крашэўскага** (1812-1887), пісьменніка, гісторыка, грамадскага дзеяча.





# Юбілейныя даты 2012 года

**28 ліпеня** -- 110 гадоў з дня нараджэння **Віктара Бенядзіктавіча Вальтара** (1902-1931), беларускага пісьменніка.

**29 ліпеня** — 25 гадоў з часу заснавання Наваградскага гістарычна-краязнаўчага музея (1987, адкрыты 11 верасня 1992 г.).

**30 ліпеня** — 30 гадоў з часу заснавання Вілейскага гістарычна-краязнаўчага музея (1982, адкрыты 7 траўня 1985 г.).

**31 ліпеня** -- 210 гадоў з дня нараджэння **Ігната Дамейкі** (1802-1889), геолага, мінеролага, даследчыка Чылі, аўтара мемуараў.



*Ігнат Дамейка*

**2 жніўня** — 80 гадоў таму ў СССР уведзена ўсеагульная сямігадовая адукацыя, а ў снежні створаны першыя школы-дзесяцігодкі ў БССР.

**7 жніўня** -- 175 гадоў з дня нараджэння **Баляслава Колышкі** (1837-1863), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 г.

**7 жніўня** — 80 гадоў з дня нараджэння **Адама Восіпавіча Мальдзіса** (1932, Астравецкі р-н), літаратуразнаўца, празаіка, грамадскага дзеяча, доктара філалагічных навук.



*Адам Мальдзіс*

**8 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Дзмітрыевіча Чарнышэвіча** (1912-1967), беларускага пісьменніка.

**17 жніўня** -- 70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Вярэніча**, беларускага моваведа, кандыдата філалагічных навук, дацэнта Гарадзенскага аграрнага ўніверсітэта.

**19 жніўня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Анішчыка** (1912-2007), беларускага пісьменніка, краязнаўца.

**19 жніўня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Барыса Міхайлавіча Мікуліча** (1912-1954), беларускага празаіка, крытыка.

**25 жніўня** – 80 гадоў з дня нараджэння **Пятруся Міхайлавіча Макаля** (1932-1996), паэта, драматурга.

**26 жніўня** -- 120 гадоў з дня нараджэння **Сымона Якубчыка (1892-1938)**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук.

**27 жніўня** -- 90 гадоў з дня нараджэння **Алеся Іванавіча Махнача** (1922-2001), беларускага драматурга, празаіка, публіцыста.

**31 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Міхайлавіча Шыціка** (1922-2000), беларускага празаіка.

**6 верасня** – 215 гадоў з дня народзінаў **Івана Іванавіча Грыгаровіча** (1792-1862), археографа, гісторыка, краязнаўца, пісьменніка.

**7 верасня** — 180 гадоў з дня нараджэння **Людвіка Тодаравіча Нарбута** (1832, Воранаўскі р-н — 1863), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гг.

**13 верасня** – 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Ільіча Содаля**, пісьменніка, літаратуразнаўца, краязнаўца.

**16 верасня** – 75 гадоў з дня нараджэння **Барыса Іванавіча Луцэнкі**, Народнага артыста Беларусі, рэжысёра.

**16 верасня** — 75 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Васільевіча Мядзведзя**, заслужанага майстра спорту чэмпіёна XVIII, XIX і XX Алімпійскіх гульняў, неаднаразовага чэмпіёна свету, Еўропы, СССР па вольнай барацьбе.

**17 верасня** – 100 гадоў з дня народзінаў **Максіма Танка** (сапр. Скурко Яўген Іванавіч, 1912-1995 ), Народнага паэта Беларусі.



*Максім Танк*

**17 верасня** -- 90 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Калесніка** (1922-1994), беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук, прафесара, заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі.

**19 верасня** — 45 гадоў з часу заснавання Нацыянальнага Полацкага гістарычна-культурнага музея-запаведніка.

**20 верасня** -- 75 гадоў з дня нараджэння **Карла Гутшміта**, нямецкага беларусіста.

**20 верасня** — 75 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Канстанцінавіча Каўкі** (1937, Чэрвенскі р-н), маскоўскага гісторыка, літаратуразнаўца.

**22 верасня** — 40 гадоў з часу заснавання Коласаўскага заказніка ў Стаўбцоўскім р-не.

**23 верасня** -- 110 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Іванавіча Васілёнка** (1902-1982), беларускага літаратуразнаўца, фалькларыста.

**26 верасня - Еўрапейскі дзень моў.**

**27 верасня** -- 120 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Барана** (1892-1937), беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, педагога.

**28 верасня** -- 60 гадоў з дня заснавання **Ашмянскага** раённага краязнаўчага музея імя Ф. Багушэвіча.

**30 верасня** -- 120 гадоў з дня нараджэння **Зоські Верас** (сапр. Сівіцкая Л.А., 1892-1991), беларускай грамадска-культурнай дзяячкі, пісьменніцы.

**1 кастрычніка** -- 400 гадоў з дня нараджэння **Яна Антонія Храпавіцкага** (1612-1685), дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай.

**1 кастрычніка** – 75 гадоў з дня нараджэння **Андрэя Юр'евіча Мдзівані** (Мдывані), кампазітара.

**3 кастрычніка** -- 90 гадоў з дня нараджэння **Міхася Навумовіча** (1922-2004), беларускага грамадска-культурнага дзеяча на эміграцыі, мастака.

**7 кастрычніка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Жывіцы** (сапр. Попка, 1912-1990), беларускага журналіста, пісьменніка, грамадскага дзеяча на эміграцыі.

**7 кастрычніка** – 80 гадоў з дня нараджэння **Івана Мікалаевіча Пташнікава**, пісьменніка.

**8 кастрычніка** -- 110 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Іванавіча Кернажыцкага** (1902-1942), беларускага гісторыка.

**9 кастрычніка** -- 80 гадоў з дня нараджэння **Івана Іванавіча Калесніка** (1932-1979), беларускага паэта, публіцыста, перакладчыка.

**11 кастрычніка** -- 130 гадоў з дня нараджэння **Яна Тарчэўскага** (1882-1929), дзеяча вызвольнага і культурнага руху Беларусі.

**20 кастрычніка** --120 гадоў з дня нараджэння **Янкі Тарасевіча** (1892-1978), беларускага культурнага дзеяча на эміграцыі, каталіцкага духоўніка, доктара тэалогіі.

**25 кастрычніка** -- 140 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Аляксандравіча Рагенфельда** (1872-?), беларускага фалькларыста і этнографа.

**29-30 кастрычніка** -- 75 гадоў з часу масавых расстрэлаў прадстаўнікоў беларускай інтэлегенцыі ў Менску.

**31 кастрычніка** – 75 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Сяргеевіча Куліка** (1937-2002 ), графіка.

**31 кастрычніка** -- 70 гадоў з дня нараджэння **Івана Коўкеля** (1942-2009), беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, прафесара.

**Кастрычнік** — 35 гадоў з часу адкрыцця філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы (з 11 кастрычніка 1978 г. — Купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Ляўкі ).

**1 лістапада** — 380 гадоў з часу ўтварэння Магілёўскай праваслаўнай епархіі.

**1 лістапада** -- 120 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Трроські**, дзеяча нацыянальна-культурнага руху ў БССР. З в. Лаша (Гродзенскі р-н). Загінуў у 30-я гг.

**1 лістапада** – 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Міхайлавіча Верамейчыка** (1937-1999), паэта.

**1 лістапада** -- 15 гадоў таму назад у Лідзе выйшаў 1-шы нумар аднаўленай газеты **"Наша слова"**.

**3 лістапада** — 130 гадоў з дня нараджэння **Якуба Коласа** (1882-1956), Народнага пісьменніка Беларусі, вучонага, акадэміка НАН Беларусі.



*Якуб Колас*

**4 лістапада** — 125 гадоў з дня нараджэння **Цішкі Гартнага** (сапр. Зміцера Хведаравіча Жылуновіча, 1887-1937), пісьменніка, акадэміка НАН Беларусі, палітычнага і дзяржаўнага дзеяча БССР.

**6 лістапада** — 25 гадоў з часу заснавання Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры (Менск, 1987, адкрыты ў лістападзе 1991 г.)

**11 лістапада** -- 20 гадоў назад устаноўлены дыпламатычныя адносіны паміж Беларуссю і Ватыканам, заснавана Апостальская нунцыятура ў Беларусі.

**14 лістапада** -- 200 гадоў з дня нараджэння **Паўлюка Багрыма** (1812-1891?), беларускага паэта.

**15 лістапада** — 75 гадоў з часу стварэння **Беларускай дзяржаўнай акадэміі** музыкі (Менск, 1932).

**15 лістапада** — 45 гадоў з часу заснавання Саюза кінематаграфістаў Беларусі.

**16 лістапада** – 75 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Антонавіча Лукшы**, пісьменніка, перакладчыка.

**25 лістапада** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Мацвеевіча Замерфельда** (1912-1980), беларускага паэта, крытыка, педагога.

**26 лістапада** -- 175 гадоў з дня нараджэння **Міхала Эльвіра Андрыёлі** (1837-1893), мастака, удзельніка паўстання 1863 года.

**Лістапад** — 60 гадоў з часу заснавання Дзяржаўнага хору Беларусі пад кіраўніцтвам Г.І. Цітовіча (з 1986 носіць імя Г.І. Цітовіча).

**2 снежня** -- 400 гадоў з дня нараджэння **Януша Радзівіла** (1612-1655), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**3 снежня** -- 75 гадоў з дня нараджэння **Данута Бічэль**, паэтэсы.

**4 снежня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Сцяпанавіча Русецкага** (сапр. Бурдзялёў, 1912-2000), беларускага паэта, перакладчыка.

**10 снежня** -- 160 гадоў з дня нараджэння **Вандаліна Шукевіча** (1852-1919), беларускага археолага, этнографа.

**19 снежня** -- 100 гадоў з дня нараджэння **Фрыды Гурэвіч** (1912-1988), рускага археолага, кандыдата гістарычных навук.

**20 снежня** — 80 гадоў таму прынята пастанова ЦВК і СНК БССР "Аб аб'яўленні Беларускай ССР краінай суцэльнай пісьменнасці" (1932 г.).

**26 снежня** – 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Васілевіча Гніламёдава**, крытыка, літаратуразнаўца, акад. НАН Беларусі.

**27 снежня** -- 90 гадоў з дня нараджэння **Івана Кузьміча Сіўцова** (1922-1959), беларускага празаіка, крытыка.

**31 снежня** -- 210 гадоў з дня нараджэння **Максімільяна Станіслава Рылы** (1802-1848), беларускага філосафа, археолага, усходазнаўца, каталіцкага рэлігійнага дзеяча.

**Снежань** -- 40 гадоў з часу заснавання гістарычна-археалагічнага запаведніка ў Заслаўі (з 1986 г. — Дзярж. гіст.-культурны запаведнік "Заслаўе").

**У 2012 годзе:**

**1150 гадоў** з часу заснавання **Полацка** (862 г.)

**980 гадоў** таму назад адбыўся **паход** гарадзенскага князя Усяслава Давыдавіча на паселішчы занёманскай Літвы.

**910 гадоў** з дня нараджэння **Еўфрасінні Полацкай**.

**650 гадоў** таму назад **Гарадзенскі полк перамог** у бай войска крыжацкага ордэна пад камандай Шындэкопфа.

**625 гадоў** з часу першага пісьмовага ўпамінання пра **Бабруйск** (да 1387 г.)

**625 гадоў** з часу першага пісьмовага ўпамінання **Ігумена** (цяпер Чэрвень).

**625 гадоў** таму назад пабудаваны ў **Крэве** (Смаргонскі р-н) адзін з першых у ВКЛ касцёлаў.

**625 гадоў** таму назад в. **Германішкі** (Астравецкі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

**580 гадоў** таму назад в. **Цырын** (Карэліцкі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

**550 гадоў** таму назад у **Варнянах** (Астравецкі р-н) пабудаваны касцёл, фундаваны Марыяй Сангайлай.

**525 гадоў** з часу першага ўпамінання пра г. **Пружаны** (1487 г.)

**480 гадоў** таму назад пабудавана з дрэва Свята-Мікалаеўская царква ў мяст. **Юрацішкі** (Іўеўскі р-н), аднаўлена ў 1840 г.

**475 гадоў** таму назад у прывілеі караля і вялікага князя Жыгімонта І упершыню згадваецца **в. Бердаўка** (Лідскі р-н).

**470 гадоў** таму назад пабудаваны драўляны касцёл у мяст. **Індура** (Гарадзенскі р-н), фундаваны Іванам Давойнам.

**465 гадоў** з дня нараджэння **Мацея Стрыйкоўскага**.

**450 гадоў** таму назад в. **Ятра** (Наваградскі р-н) атрымала прывілей караля і вялікага князя Жыгімонта ІІ-Аўгуста на права адкрываць корчмы, ладзіць кірмашы і гандлі.

**425 гадоў** з часу дакументальнага пацвярджэння існавання Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра (Слонімскі р-н, 1587 г.).

**410 гадоў** таму назад в. **Валеўка** (Наваградскі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

**400 гадоў** таму назад пабудаваны кальвінскі збор у мяст. **Жодзішкі** (Смаргонскі р-н).

**390 гадоў** таму назад заснаваны кляштар аўгусцінцаў у мяст. **Міхалішкі** (Астравецкі р-н).

**390 гадоў** таму назад у **Гародні** была заснавана калегія езуітаў.

**390 гадоў** таму назад пабудаваны драўляны касцёл у в. **Забалаць** (Воранаўскі р-н).

**370 гадоў** таму назад **Жыровічы** (Слонімскі р-н) атрымалі статус мястэчка.

**350 гадоў** таму назад заснаваны касцёл св. Міхаіла Архангела ў мяст. **Міхалішкі** (Астравецкі р-н), фундаваны Я. Брастоўскім.

**320 гадоў** таму назад пабудавана ўніяцкая царква **Барунскага** кляштара (Ашмянскі р-н), якая пазней неаднаразова перараблялася.

**275 гадоў** з часу заснавання Урэцкай шкляной мануфактуры (г.п. Урэчча, 1737—1846 гг.).

**230 гадоў** таму назад пабудаваны ў мяст. **Лунна** (Мастоўскі р-н) касцёл, рэканструяваны ў 1895 г.

**225 гадоў** таму назад у в. **Вялікае Мажэйкава** (Шчучынскі р-н) закладзены парк, які стаў помнікам садова-паркавага мастацтва Беларусі.

**210 гадоў** таму назад пачата будаўніцтва сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага ў в. **Залессе** (Смаргонскі р-н).

**200 гадоў** таму назад пабудаваны мураваны касцёл у мяст. **Забалаць** (Воранаўскі р-н), фундаваны Л. Тышкевічам.

**80 гадоў** з часу заснавання Цэнтральнага батанічнага саду НАН Беларусі (Менск, 1932 г.)

**75 гадоў** з часу стварэння Беларускай дзяржаўнай філармоніі (Менск, 1937).

# Родныя словы

Думаю, марнае пытанне: ці ёсць на свеце мова, больш ласкавая і мілая, чым матчына? І не можа быць іншай, якая так адмыслова стасавалася б менавіта да цябе.

Ну з чым можна параўнаць такія выразныя, вобразныя нашы словы, як *надвор'е, хмарыца, навальніца, бліскавіца, вясёлка, спёка*? Прамаўляеш іх і «бачыш», як на дварэ пачынае хмурнець, навальваецца на цябе нядобрая стыхія, раз-пораз бліскаюць пад грымоты ў небе асляпляльныя водсветы, а потым усё адлягае, зноўку ззяе сонца, ад краю да краю раскінулася вясёлка і настае цеплыня...

Або ў вячэрнім небе шпацыруе між аблокаў вясёленькі маладзічок. Ці яшчэ: у лес прыйдзі, куды ні глянь: чарніцы і суніцы, нібы шастаюць між дрэў птушачкі-сініцы... Вялікдзень — самы галоўны і святочны ў годзе дзень... Мядовы водар сенажаці... Што можа быць “смачней” за такія слоўцы!

Ад маці ўпершыню ты пачуў самыя прыгожыя словы на свеце. Прыгадаеш іх — і ўсплывае ў памяці матуля сярод хаты, у якой ты з'явіўся на свет і правёў першыя доўгія-доўгія гады, а цяпер там, можа, ніколі ўжо не будзеш. Згадваеш родную з яе клапатлівасцю і ласкай, з яе нязменнай дабрынёй. І дзе б потым ні жыў, у якім асяродку ні круціўся, цудоўныя словы з басаногага маленства ўжо не могуць пакінуць цябе. Калі ж у каго яны забываюцца ці выціскаюцца іншымі, дык гэта, думаю, тое ж самае, што забыцца пра маці, пра тое, як яна ўглядалася праз акенца, чакаючы дахаты цябе, як хавала на вячэру смачнейшую за ўсё лусту хлеба, як была рада пагаманіць з табою.

Вымавіш спаконвечныя словы, якія складаюць лепшую частку тваёй душы, дык потым, як пасля малітвы, уяўляецца тое, што было ў самыя дарагія моманты жыцця. Калі ж завітаеш у якую-небудзь вёсачку, дык бывае, яшчэ нікога не сустрэў на вулачцы, а ўжо “чуеш”, як тут усё “гаворыць” на нашай мове. І перад табою ніякая не “ізба”, а ***хата***, не “крыльцо”, а ***ганак***. Чужыя словы, я гэта падмеціў, у беларускай вёсцы “не гучаць”. Душа тут адгукаецца на кожнае стрэчнае і “вызваньвае” ўсё менавіта так, як гаварыў калісь ты сам, вольна жывучы на ўлонні роднай прыроды.

Хто памятае сваю маці, хто згадвае, як яна гаварыла, для таго яна працягвае жыць. Хто не выракаецца роднай мовы, той ніколі не губляе ў сваёй душы бацькоў і дзядоў. Адрачыся ад іх — вялікі грэх. Надыдзе час, і Усявышні спытае ў цябе, чаму пагрэбаваў дадзенай ім мовай, зганіў, збэсціў, адрынуў яго дарунак.

Сёння не ведаць сваёй мовы — і грэшна, і смешна. Бо нічым не заменіш яе, каб не згубіць нешта сваё. Чужое - не заўсёды прывабнае, якое б дасканалае яно ні было. І, да таго ж, яно бывае няўдзячным, вераломным, бо выціскае з ужытку карэннае наша.

Таму мы павінны берагчы тое сваё, што робіць нас людзьмі сярод іншых. Каб забяспечыць сваё існаванне, неабходна развіваць спрадвечна сваё; на гэтым толькі і можа здзейсніцца чалавек. Імкненне да свайго — найвялікшая сіла. Сваё найбольш зразумелае і трывалае. Яно ж дапамагае лепш зразумець і чужое.

Трэба не губляцца ў гурце іншых. Народ, як і чалавек, павінен быць не столькі часткай агульнай масы, колькі самім сабой, існаваць як асоба. Народ-асоба! Толькі гэта надае яму значнасці, гонару і павагі ад іншых.

Заслугоўвае вялікай удзячнасці той, хто зберагае нашу мову. Згубіць яе - дык век ужо не ведаць гэтай прыгажосці, не быць самастойнымі людзьмі, гаспадарамі свайго лёсу.

Берагуць і захоўваюць ад згубы нашу мову тыя, хто сёння гаворыць па-беларуску. Гэта і тыя, якія калісь гаварылі на ёй, — шматлікія пакаленні нашых продкаў. Яны карысталіся роднымі словамі. Мы, дзеці, пасталеўшы і апынуўшыся ў горадзе, вымушаны прызвычайвацца да іншай мовы. А вось жа ў маці такога не здарылася! Яна тым самым і дапамагла зберагчы спрадвечны скарб беларусаў. Па-ранейшаму згадваю яе гаворку, яна ніколі не выветрыцца з памяці.

Шмат слоў я чуў і ад іншых людзей. Гэтыя словы - як свежы струменьчык крынічнай цуд-вады. Вось некалькі такіх слоў і ідыём, да якіх дадаў некаторыя тлумачэнні і прыклады: ***адкавяліць*** - *адрэзаць вялікі кавалак хлеба ці сала*; ***адзяжунак*** - *беднае адзенне*; ***адным пэндам*** *прыбраўся ў хаце, бо прыйдзе дзяўчына*; ***апівоша***; ***астаркаваты***; ***ачалавечыцца*** — *ажаніцца*; ***ашушкацца*** — *цёпла апрануцца*; ***бабаніць*** *дождж*; ***балбесаваты***; ***блудзяка***; ***блытаць*** - *гаварыць без сэнсу*; ***блэндзіць*** - *абы што гаварыць*; ***бохаць*** - *многа піць раз-пораз вады*; ***брыдосны***; ***брэнгаць*** - *непакоіць стукам*; ***бурвалак*** - *непаваротлівы мужчына*; ***бясклёчны*** - *бесталковы*; ***варыць*** - *напружана думаць*; ***хлапчаня - ну выліты бацька***; ***выскрыпаць*** -*выстудзіць хату, раз-пораз ходзячы сюды-туды;* ***вялізазны***; ***гар*** - *гарэлка; ой, ужо так шмат часу прайшло, а ў мяне яшчэ гарох* ***ні ў бабкі***; ***гопала*** - *таўсматы чалавек*; ***гром-баба*** -*таўсматая, непаваротлівая жанчына*; ***грыбы*** - *тоўстыя губы*; ***другім навaратам*** - *паўторна*; ***душы паслухаючы*** - *з задавальненнем*; ***жадзёба***; ***забівае дых*** - *не дае слова сказаць*; ***з кіпяча гаршка*** - *у апошні момант, ледзь паспеўшы*; ***з мухам***і - *з норавам, ганарлівы(ая)*; ***зрэзацца*** - *моцна пасварыцца*; ***з'яда*** - *пражорлівы (пра жывёлу)*; ***кропкі пабраў*** - *выглядам падобны на бацьку ці маці*; ***ісці ў прочкі*** - *жабраваць*; ***каламазнік*** - *брудны, неахайны чалавек*; ***каму нага, каму галава*** - *жорсткая бойка паміж сваімі*; ***кідацца*** - *гадавацца*; ***кірпач***; ***кум каралю***-*цёпла апрануты, добра ўладкаваны ў жыцці*; ***махнуцца*** - *хутка сходзіць, з'ездзіць кудынебудзь і пабыць там нядоўга*; ***мышкаваць*** - *думаць, як заўтра пракарміцца*; ***набрацца, як цяльпук*** - *моцна напіцца*; ***нагаварыць дзесяць бочак арыштантаў***; ***намурзацца*** - *наесціся, напіцца чужога ці дарэмнага*; ***на разбор шапак***-*напаследак, са спазненнем*; ***насабірацца*** - *наесціся сяготаго пакрыху*; ***на ўрляп*** - *у вырай*; ***на шэнды-брэнды*** - *на абы-што* (патраціць грошы); ***не замгнеш, як лета пройдзе***; ***паўтара людскога*** - *не палюдску*; ***пхнуцца*** - *ісці нехаця*; *распусціць нюні* - *расплакацца* (пра дарослага); ***растапырыць храпы*** - *раззлавацца*; ***рыхтык*** - *вельмі падобны* (пра чалавека); ***смех-падэрва***; ***страхалюддзе*** - *страхоцце*; ***счакацца*** - *змучыцца чаканнем*; ***з сястрою сыйдземся, стукнемся горам аб гора, ды і разыйдземся***; ***уварыцца*** - *моцна спацець*; ***у даўгу, яку вянку*** *(шаўку)*; ***у свіныя галасы*** - *з запазненнем*; ***у хаце чыста-чыста, бела-бела, аж бляе***; ***ухват*** - *спрытны, настырны сабе на карысць;* ***цыцоха***; ***шкірыць зубы***...

Я здавён збіраю рэдкія беларускія слоўцы. Назбіралася ўжо больш за шэсцьсот “пацеркаў”, бо не-не ды і занатоўваю слоўца-другое ці прыпамінаю, як гутарыў з маці. Нават выдаў невялікую кніжачку матчыных слоў. І мусіць, гэтаму не будзе канца. Таму што па-ранейшаму згадваю яе гаворку, якая ніколі не выветрыцца з памяці. Вось што значыць сваё, роднае, кроўнае - захаванае ў душы!

Ці не даўно пара нам, чый шлях у жыццё пачынаўся ад матчынага слова, вяртацца да свайго роднага, каранёвага, натуральнага, як крынічная вада, як гаючы водар беларускіх лясоў, палёў, лугоў?

Зберажэм матчыну мову!

***Вячаслаў Мілкоўскі.***

# На парадку дня - нацыянальная самасвядомасць і моўная культура



“Фармаванне нацыянальнай самасвядомасці і моўнай культуры навучэнцаў сродкамі вучэбных прадметаў” - гэтую тэму 3 студзеня абмяркоўвалі педагогі на навукова-практычнай канферэнцыі ў Лідзе. Такую форму работы тут выкарыстоўваюць не ўпершыню. На гэты раз лідскія педагогі вырашылі падзяліцца досведам с калегамі з суседніх раёнаў.

Навукова-практычная канферэнцыя сабрала каля 150 чалавек з Лідскага, Воранаўскага і Слонімскага раёнаў. Удзельнікі канферэнцыі расказвалі пра свае напрацоўкі ў гэтым кірунку, прычым гутарка ішла і аб арганізацыі дзейнасці з дашкалятамі, і са школьнікамі рознага ўзросту.

Выступаючы перад калегамі, Ірына Радзюкевіч, загадчыца дзіцячага садка № 36 г. Ліды, які з 2007 года працуе ў этнаграфічным кірунку, адзначыла:

- Бацькі за этнаграфічнае выхаванне дзяцей. Яны заўсёды дапамагаюць педагогам, з задавальненнем удзельнічаюць у беларускіх святах, якія арганізоўваюцца ў дашкольная установе.

Лідскія педагогі і іх калегі з суседніх рэгіёнаў у час працы секцый расказвалі пра формы работы з дзецьмі і іх бацькамі па фармаванні нацыянальнай свядомасці сучаснай беларускай сям'і, маральных якасцей падлеткаў, каштоўнасных адносін да літаратурнай спадчыны, выхаванні патрыятычных і грамадзянскіх пачуццяў, духоўнасці, высокай культуры і актыўнай жыццёвай пазіцыі ў дзяцей і падлеткаў. На канферэнцыі было адзначана: калі правільна арганізаваць работу, усяго гэтага можна дасягнуць як на уроках, так і ў пазаўрочнай дзейнасці. У адной з секцый гаварылі пра краязнаўства як умову выхавання нацыянальнай самасвядомасці вучняў. Лідскія педагогі рабілі прэзентацыі сваіх музеяў і расказвалі калегам, якіх вынікаў можна дасягнуць праз дзейнасць этнаграфічных гурткоў.

Пасіўных удзельнікаў сёння на канферэнцыі не было. Адны дзяліліся досведам, іншыя яго пераймалі. Да прыкладу, Рышард Грышко - намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Беняконскай сярэдняй школы прыехаў у Ліду, паводле яго слоў, не толькі, каб расказаць калегам, як іх педагогі выхоўваюць патрыятычныя і грамадзянскія пачуцці вучняў сродкамі краязнаўства, але і каб пачуць пра дасягненні лідзян у гэтым кірунку.

Вынікі ж мерапрыемства, па меркаванні арганізатараў, будуць бачны праз час, калі атрыманыя веды педагогі пачнуць скарыстоўваць на практыцы.

Удзельнікі канферэнцыі былі запрошаны на майстар-класы па выцінанцы і ткацтве. Іх правялі работнікі Лідскага раённага цэнтра рамёстваў і традыцыйнай культуры і вучні 4-ай школы. Дарэчы, гэта навучальная ўстанова і была месцам правядзення канферэнцыі. У яе праграме таксама значылася выстаўка-частаванне пад назвай “Беларускія прысмакі”. Школы раёна чаго толькі не прыгатавалі, каб здзівіць гасцей. Удзельнікі канферэнцыі са смакам каштавалі стравы, што прапаноўвалі гаспадары.

***Паводле tv-lida.by.***

# Віншаванні ТБМ



***Светлых Каляд і шчаслівага Новага года!***

*Арнальда Абэці, амбасадар Італіі.*

---

Шаноўныя сябры, паважаныя калегі!
Дзень Хрыстова Нараджэння і Новы год – светлыя і шчырыя святы, якія поўняць надзеямі, марамі, любоўю і цеплыней наша жыццё!
Віншуем Вас з надыходзячымі святамі і зычым разумення і падтрымкі
Вашых блізкіх і паплечнікаў, поспехаў і настойлівасці ў справах,
светлых цудаў і Божай дапамогі!

*Таццяна Пашавалава, Уладзімір Мацкевіч.*
*Цэнтр сацыяльных інавацый / Агенцыя гуманітарных тэхналогій.*

---

**Паважаныя сябры!**
**У гэтыя святочныя дні шчыра віншуем вас**
**з Новым годам і Калядамі!**
**Жадаем, каб у вашым жыцці 2012 год стаў годам**
**вялікіх магчымасцей і ажыццяўлення**
**самых грандыёзных планаў!**
**Хай ён падорыць вам многа яркіх фарбаў**
**і прыемных уражанняў, прынясе поспехі і радасць,**
**выканае ўсе вашыя жаданні!**

***Супрацоўнікі Літаратурнага музея***
***Максіма Багдановіча.***

---

ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Чаканне Калядаў і Новага 2012 года - пара надзеі, час спадзяванняў на тое, што збудуцца самыя запаветныя мары!

Нам, беларусам, ёсць у што верыць - у сябе, у тое, што наша Бацькаўшчына стане сапраўды вольнай, дэмакратычнай і заможнай дзяржавай. Няхай жа ўсе нашы надзеі спраўдзяцца, а мары стануць рэчаіснасцю!

Віншуем вас з надыходзячымі раднаснымі святамі!
Жадаем шчасця, поспехаў і моцнага здароўя!

*Таварыства беларускай культуры ў Літве.*



*Віншую са святам Каляд і Новым годам!*
*Няхай 2012 год прынясе ўсім больш радасных і прыемных дзён, творчага вам плёну.*
*Вячка Целеш, Рыга.*

---

*Хоць сэрцаў цёплы рух, хоць колькі слоў*
*Для ТБМ, для повязі сяброў.*
*Няхай душа працуе на іскрыстасць,*
*Каб стала слову цёпла і ад слова.*
*Хай прамянее наша Таварыства,*
*І не заглохне дарагая мова.*
*У кожным беларусе і ў народзе -*
*Такі хай будзе тост на пераходзе!*
*І вера, праца наша ў новым годзе,*
*У мроі аб красе і аб свабодзе.*
*Няхай цяплее (і ўнутры), бо золка!*
*Віншуем вас!*

*Падсвільская суполка.*

# Выстава ў сядзібе ТБМ

13 студзеня 2012 года ў рамках кампаніі "Будзьма" адбудзецца адкрыццё выставы з нагоды юбілею вядомага гісторыка беларускага мастацтва **Майі Яніцкай.**

Месца - сядзіба ТБМ у Менску па Румянцава, 13.

Пачатак імпрэзы ў 17.30. Уваход вольны.

# ЯНІЦКАЯ МАЙЯ МІХАЙЛАЎНА



Нарадзілася 22 траўня 1931 года на хутары Валянтынава Зарэчынскага сельсавета Плешчыніцкага р-на (цяпер Лагойскі р-н) Менскай вобл. У 1955 годзе атрымала вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці эканаміст.

У 1970 г. скончыла вочную аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР (ІМЭФ АН БССР).

У 1974 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю па спецыяльнасці "Выяўленчае мастацтва". З 1975 г. сябра Саюза мастакоў СССР.

**Па тэме дысертацыі надрукавала шэсць манаграфій.** Акрамя таго, выдала брашуру "Фёдар Зільберт" (творчы партрэт мастака-кераміста).

У 1983 г. была рэкамендавана да абароны доктарская дысертацыя, але яна не змагла паехаць у Маскву на абарону па сямейных абставінах.

Увогуле М. Яніцкая даследуе гісторыю культуры Беларусі X-XX стст., у тым ліку стан выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Яна першы аўтар шматлікіх фундаментальных артыкулаў у выдадзенай 12-ці томнай **"Беларускай Савецкай Энцыклапедыі"; "Кароткай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі"** і **"Энцыклапедыі Літаратуры і Мастацтва Беларусі";** аўтар артыкулаў энцыклапедычнага даведніка **"Францыск Скарына і яго час"** (1988 г. выдавецтва БелСЭ), а таксама выдання Інстытута Літаратуры АН БССР **"Скарына і яго эпоха"** Мн., 1990

Адзін з аўтараў шматтомнага выдання ІМЭФ АН БССР **"Гісторыя мастацтва Беларусі".**

Яна навуковы рэдактар, член рэдкалегіі і адзін з аўтараў такога фундаментальнага выдання, як 7-мі томны **"Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі".**

Навуковы кансультант 5-ці томнай "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі"

Аўтар прадмовы і складальнік раздзелаў па шкле, фарфору, фаянсе і металапластыцы ў **каталогу** выставы Міністэрства культуры БССР у г. Плоцку (ПНР) пад назвай **"Мадэрн са збораў беларускіх музеяў"** (выд. у Плоцку на польскай мове ў 1990 г.)«

Складальнік і аўтар уступнага артыкула да Каталога выставы **"Падвойныя дываны са збору Польшчы і Беларусі"** (Мн. 1996).

Складальнік і аўтар прадмоў да двух **каталогаў выставаў суполкі , "Пагоня"** Саюза мастакоў Беларусі—"Адраджэнне-95" , (Мн., 1996). **Суполка "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў,** (Мн., 2002).

Адзін з аўтараў і навуковы рэдактар першага у Беларусі мультымедыйнага выдання **"Іканапіс. Традыцыйны касцюм. Архітэктура. 100 рарытэтаў з музеяў Беларусі"**, (Мн., 2000).

Складальнік раздзела **"Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва"** у альбоме **"Беларусь-трэцяму тысячагоддзю"**, прысвечанага выставе **"Беларускае мастацтва дваццатага стагоддзя",**(Мн., 2003).

Складальнік і аўтар тэксту радзела **"Кераміка"** ў альбоме **"Музей старажытнабеларускай культуры"**, (Мн, 2004)»

Аўтар тэксту раздзела **"Культура сёння"** у штогадовым выданні Міністэрства замежных спраў РБ **"Беларусь. Факты"**, (Мн., 2006).

Аўтар артыкулаў у перыядычным друку Беларусі, Украіны, Малдовы і Расіі, прысвечаных агляду выстаў розных відаў сучаснага мастацтва, а таксама аналізу твораў персанальных выстаў сучасных мастакоў Беларусі. Яна надрукавала **творчыя партрэты:**

жывапісцаў Ул. Мудрогіна, Ю. Дарашэвіча, К. Харашэвіча, А. Цыркунова, А. Марачкіна, В. Ціханава, Ул. Сулкоўскага;

габеленістаў Л. Пятруль і Т. Маркавец-Бартлавай;

графікаў Ул. Васюка і Я. Куліка;

керамістаў Т. Васюк, Л. Панамарэнкі, Ф. Зільберта;

мастакоў шкляной пластыкі У. Жохава, В. Дзвінскай, К. Вакс, В. Сазыкінай, Л. Мяг-ковай, У. Мурахвера, Т. Малышавай, Г. Усаевіч, А. Федаркова, С. Лінкевіча;

мастака і мастацтвазнаўцы М. Раманюка і інш.

Яна адзін з аўтараў, першы складальнік і навуковы рэдактар **серыйнага выдання Беларускага фонду Культуры - зборнікаў "Вяртанне" (1992); "Вяртанне-2" (1994); "Вяртанне-3" (1996); "Вяртанне-4" (1997),** якія прысвечаны пошукам страчанай Беларуссю культурнай спадчыны X-XX стст.

Яна ж аўтар артыкулаў на гэтую ж тэму ў **Культуралагічным Бюлетэні "Кантакты і дыялогі",** газеце **"Голас Радзімы",** на радыё **"Свабода".**

Нарэшце ёй удалося, дзякуючы ініцыятыве мастака Валерыя Левуніна, прыняць удзел **у альбоме "Слуцкія паясы"** у якасці складальніка і аўтара прадмовы. Аб выданні альбома Яніцкая марыла амаль 30 год, мара збылася толькі ў 2006 годзе.

М. Яніцкая ўзнагароджана **медалём "Ветэран працы"** (1989) і **медалём** Беларускага Саюза мастакоў **"За заслугі ў выяўленчым мас-тацтве"** (2001).

Усяго яна апублікавала 920 артыкулаў, у тым ліку ў энцыклапедычных выданнях - 542, 108 - у газетах, 195 - у зборніках, 75 - у часопісах. Прачытала 44 даклады на Міжнародных і Рэспубліканскіх Кангрэсах і семінарах.

*Праект*

# Парадак дня пасяджэння Рады ТБМ 22 студзеня 2012 года

Месца правядзення – Сядзіба ТБМ, г. Мінск, вул. Румянцава, 13
Пачатак рэгістрацыі – 10.00.

1. Справаздача Старшыні ТБМ аб працы арганізацыі за 2011 год.
2. Зацвярджэнне плана працы Рады ТБМ на 2012 год.
3. Аб зменах у рэдкалегіі газеты "Наша слова".
4. Аб канцэпцыі Закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы".
5. Рознае.

# Прэзентацыя беларускамоўных насценных календароў




У межах кампаніі "Будзьма!" 16 студзеня 2012 года ў Палацы мастацтваў (вул. Казлова, 3) адбудзецца прэзентацыя беларускамоўных насценных календароў, выдадзеных ТБМ на 2012 год. Найперш гэта каляндар, прысвечаны 120-годдзю Максіма Багдановіча, а таксама некалькі дзясяткаў насценных календароў з выявамі шэдэўраў беларускага дойлідства, выдадзеных у межах праекта "Захаванне культурнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці".

Удзел бяруць мастак-дызайнер, аўтар календароў Ігар Марачкін, старшыня ТБМ Алег Трусаў, першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім.

Пачатак імпрэзы а 17-й гадзіне.

Уваход вольны.




## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Вяргей Валянціна – 100000 р., г. Менск
2. Гіст-патр. Клуб "Спадчына" – 26000 р., м. Дварэц, Дзятлаўскага р-на.
3. Сакалоўскі Віктар – 50000 р., г. Ваўкавыск
4. Локуш Людміла –25000 р., в. Падбор'е, Навагр. р-н.
5. Раманчык Надзея – 25000 р., в. Падбор'е
6. Каліноўскі Кастусь – 155000 р., г. Вільня
7. Шкуран Аркадзь – 10000 р., г. Менск
8. Нікановіч Васіль – 20000 р., г. Жыткавічы
9. Васікова А..Я. – 40000 р., г. Гомель
10. Гвара Віктар – 20000 р., г. Лельчыцы
11. Даніловіч А. А. – 20000 р., г. Гародня
12. Цынгалёў Васіль – 10000 р., г. Жлобін
13. Рудакоў Алег – 100000 р., г. Іркуцк
14. Сябры клуба "Прамова" – 80000 р., г. Менск
15. Чарняўскі Міхась М. – 20000 р., г. Менск
16. Сауліч Мікола – 30000 р., в. Падсвілле, Глыбоцкі р-н.
17. Місевіч Мар'ян – 350000 р., в. Падсвілле
18. Шкірманкоў Фел. – 50000 р., г. Слаўгарад
19. Бекарэвіч А. В. – 50000 р., г. Менск
20. Кукавенка Іван – 20000 р., г. Менск
21. Бамбіза Мікола – 50000 р., г. Менск
22. Раманік Т.І. – 70000 р., г. Менск
23. Прылішч І.А. – 20000 р., г. Менск
24. Савіч В.У. – 10000 р., г. Пінск
25. Ляховіч П.А. – 25000 р., г. Пінск
26. Краўцоў Васіль – 100000 р., г. Гомель
27. Лепешаў Іван - 20000 р., г. Гародня
28. Грабоўскі В.А – 10000 р., п. Міханавічы, Мінскі р-н
29. Лазарук Тамара – 20000 р., г. Менск

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Беінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**

атрымальнік плацяжу

**Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"**

назва банка

Рахунак атрымальніка **3015741233011** Асабовы рахунак **739**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня

Разам

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**

атрымальнік плацяжу

**Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"**

назва банка

Рахунак атрымальніка **3015741233011** Асабовы рахунак **739**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня

Разам

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

*Валер Санько*

# Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе

## *Фрагменты з дакументальнага рамана*

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

Непісьменны вясковы беларускі люд, што з свята да свята гарбаціцца на працы, неўсвядомлена для сябе вёў геройскую нітку адвечнасці, прашчурную. Чалавеку Там нязрухна, калі тут пра яго забылі. Ён Адтуль папомсціцца забыўнікам, не раз, але што толку яму, калі Там вымагаецца ён пералёту на новую ступеньку, у новы этап і не можа нават папаўзці. У цэлых пакаленнях яго забылі, не памятаюць, узгадаць словам ці думкаю не могуць. Як быў на версе зямлі целам і духам, не патурбаваўся пра памяць і памятлівых. Не ведаў цёмны пра Тамашнія пералёты і перапоўзванні, цяпер неістотна. Абавязаны быў уведаць, дарасці. Не дарос — пакутуй, не расшукаў падказчыкаў — цярпі, еш Там заслужанае. З-за цябе, тупога, крэўныя і блізкія тут атрымаюць кару.

Састарэлыя абмежаванцы ўсё жыццё дралі неба і блізкіх выстагнамі: "Дай! Мала! Хачу!", тупыя і сівыя не навучылі маладзёнства, не перадалі зямныя і незямныя веды малым і маладым, не ўчасалі ў мазгаўню сталых: "Памятай! Узгадвай! Без прашчура цябе не было б". Не проста памятай радавод свой, годна працягвай.

Верхнія і ніжнія прыніжаюць не мёртвых — найперш сябе, не адно Там — тут, у паверхневай бясконцасці людской кругаверці.

З няпамятнікаў, якой бы нацыі і канфесіі не былі, смяюцца планеты. Як з касмапалітаў і бязродавічаў. Беспамятнікамі пагарджаюць.

…Раман Кавалёў просіць Антаніну Макарэня не загаварваць болей пра ліквідатарства. Як зэкі і бамжы пра сябе ўсёй праўды ніколі не могуць выказаць, так ліквідатары не выварочваюць увесь боль. Само што ўсплыве — ён скажа, а так не трэба. Хто быў у франтавой атацы, не ўзгадвае пра яе, пераміжыты жуд страху не ажыўляе адважніка.

Пра атаку самыя мужныя не хочуць успамінаць, баяцца мацней хварэць, сівець. Пра чарнобыльскую цяперашчыну ліквідатары таксама перамоўчваюцца.

### XIII

Бяздарнасць камуністычнай сістэмы ў цэлым: палыхае чацвёрты блок, а суседні трэці пакрыты з ім адным дахам, працуе. Цэлыя суткі. Што тут — галавацяпства, шкодніцтва, эканомнасць... Тупасць!

Не толькі. У краіне выраслі класы выканальнікаў, папугаяў, нерашальнікаў. Кожны пасадны баіцца узяць адказнасць на сябе.

Акадэмік Лягаса ў свой час гаварыў, узводзіць Чарнобыльскую АЭС у двухрэччы абсалютна нельга. Унізе, па цячэнні Дняпра жыве трыццаць мільёнаў чалавек, сорак мільёнаў, а тут да іх падсадзілі атамнага монстра. Ворагі маглі выбраць такое ўразлівае месца. Славуты Вярнадскі пісаў аб гэтых мясцінах як аб праклятых.

Да Ігналінскай АЭС планавалі пабудаваць такую на Беларусі. Ужо ішлі пошукавыя работы, падбіраліся пляцоўкі. Пётр Машэраў падтрымаў беларускіх навукоўцаў, тады з дапамогай Мікалая Слюнькова адбіліся ад АЭС. Хітрамудрыя саюзныя ўстановы быццам падаліся на просьбы беларусаў — і пасадзілі АЭС зусім побліз, у Ігналіне..

Стаць членам Акадэміі навук Савецкага Саюза не толькі прэстыжна на ўвесь свет — надзвычай адказна. Ад пасляваення з усёй Беларусі яе правадзейным членам выбраныя ўсяго два чалавекі, фізік прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Мікалай Барысевіч і матэматык Уладзімір Платонаў, новы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі.

Гора дзяржаве, у якой акадэмікі не мысляць, у якую б акадэмію іх не выбралі, агульнадзяржаўную ці рэспубліканскую. Валерый Лягаса быў не проста адным з маладых правадзейцаў усесаюзнай, а і справядліўцам, мысляром.

Сёння ні з таго, ні з сяго ён падводзіў вынікі сваіх пачасцелых і задоўжваных камандзіровак у Чарнобыльскую зону, паездкі спецрэйсамі і звычайнымі самалётамі з Масквы, аўто і верталётамі з Кіева. Сёння Лягасу горка і мотошна ад зведванай на сабе савецкай бюракратнай сістэмнасці.

— Падвядзём вынікі выбуху, падвядзём, — вышэптвае шатэністы прыгожы мужчына сярэдняга веку. Прылёг на канапу, застыў. Праз паўгадзіны не адсоўвае, згрэбвае з століка долу кнігі і газеты. Уключае і выключае тэлевізар. — Мо і сэрца баліць ад неўпарадкаванасці.

Лаўрэат Дзяржаўнай і Ленінскіх прэміяў не ведаў **пра сто дваццаць адзін архіўны дакумент у самыя разнастайныя інстанцыі аб сістэматычных парушэннях тэхналогіяў пры будаўніцтве ЧАЭС. У тым ліку пра дакладныя КДБ Кіеўскай вобласці. Усюды справядліва бачаць віну эксплуатацыйнікаў.** Гэта не ўся праўда, меншая праўда. Кэдэбэшныя дакладныя не проста красамоўныя — крыкма крыклівыя.

Пры будаўніцтве ЧАЭС меліся адступленні ад праектаў, шматлікія парушэнні тэхналогіі. Калоны каркаса машыннай залы змантаваны з адхіленнямі ад разбівачных восяў да ста міліметраў, гарызантальныя мацаванні панеляў і бэлькаў зачастую адсутнічаюць, сценавыя панелі пакладзены з адхіленнямі восяў да ста пяцідзесяці міліметраў *(17 студзеня 1979)*.

У красавіку 1981 года стралок-ахоўнік выявіў прасочванне радыеактыўнай вады з трубапровада актыўных вод блока нумар адзін. Пры прапампоўванні дэзактыўнага ад радыяцыі раствору працёкі ўзмацніліся; утрая перавышаны ўзровень радыяцыі. Ад ветру радыяцыйна забруджаная зямля плошчаю да восемсот квадратных метраў *(20 красавіка 1981)*.

На асобных кірунках ад ЧАЭС павышана радыеактыўнасць зямлі, фіксуюцца цяжкарастваральныя гарачыя часціцы. На аддаленасці ад ЧАЭС да 14 кіламетраў *(9 верасня 1982)*.

У Чарнобылі пры загрузцы рэактара тэхналагічным палівам у 1983 годзе выявілі надзвычай небяспечную з'яву — цэлых пяць секунд стрыжні аварыйнай аховы ўносілі ў рэактар не адмоўную, а станоўчую рэактыўнасць. Савецкая дзяржаўная камісія, як ні ў чым не бывала, дапусціла рэактар да эксплуатацыі.

Інспектар Дзяржатамэнерганагляду СССР, як не дзіўна, згадзіўся з найвялікім мінусам. Абяшчаны пра здарэнне галоўны канструктар Даляжаль і яго група да снежня 1984 года паспелі распрацаваць тэхнічнае заданне па замене стрыжняў рэактара, канструктарна распрацавалі. Правераць укараненне забыліся. Практычна нічога не змянілася, нічога не паправілі за дзесяць гадоў пасля Ленінградскага надзвычайнага здарэння, 1975 г., нічога не паправілі за тры гады ад першага чарнобыльскага званка 1983 года.

У праектах трэцяга і чацвёртага энергаблокаў шматлікія недахопы. У плітах перакрыццяў трэшчыны. Адзначаюцца змяшчэнні пліт, рыгеляў, навясных жалезабетонных і керамзітавых пакрыццяў. Апошнія два–тры месяцы назіраецца далейшае споўзванне пліт з перакрыццяў рыгеляў з-за перагрэву сцен барабанаў сепаратараў, з-за неадпаведнай цеплаізаляцыі *(17 сакавіка 1984)*.

У 1984 годзе на трэцім і чацвёртым энергаблоках з'явіліся шчыліны ў плітах перакрыццяў. Прычыны — канструктыўныя недахопы, з-за нізкай эфектыўнасці цеплаізаляцыі пераграваліся сцены.

Пастаўленае з Югаславіі абсталяванне для трэцяга і чацвёртага блокаў ЧАЭС часта няякаснае, у зварачных злучэннях шмат дэфектаў *(1984)*.

Нельга дапускаць зніжэння магутнасцяў энергаблокаў, атамныя рэактары не могуць прастойваць; няпоўна выгарае ядзернае паліва; у рэактары ўзнікае непажаданая тэмпература перанапружанасці. ЧАЭС тузае кожны, хто пажадае. Толькі ў 1985 годзе 26 разоў па камандзе з Аб'яднанага дыспетчарскага ўпраўлення Поўдня зніжалася магутнасць станцыі, кожнае паўторнае адключэнне адмоўна адбіваецца на надзейнасці рэактараў РБМК-1000. У тым жа годзе апрача планавых рамонтаў былі аварыйныя прыпыненні энергаблокаў, выяўляліся сур'ёзныя няспраўнасці абсталявання. Эксплуатацыйнікі быццам не ведаюць, што ўсялякая змена магутнасці павялічвае выкід радыеактыўных аэразоляў у навакольнае асяроддзе, забруджвае зямлю, труціць усё жывое. Не пратэстуюць на тузанні і адключэнні *(4 лютага 1986)*.

У дзень выбуху на атамнай, 26 красавіка, была нарада з кіраўнікамі і сакратарамі партарганізацый прадпрыемстваў раёна. Тэма — як растлумачваць насельніцтву ўзніклую сітуацыю. Ні да чога канкрэтнага не прыйшлі. Гэты дзень аб'яўлены выхадным днём. Ні слова пра шкоду радыяцыі *(26 красавіка 1986)*.

Дадумаліся ж. Не хавайцеся, людзі, не сядзіце дома ці на працы — гуляйце, выхадны…

Агульнай прычынай аварыі стала паспешлівасць здачы да чарговага партыйнага з'езду чацвёртага энергаблока, нізкая культура работнікаў АЭС *(7 траўня 1986)*. **(Чарнобыльская рана. Мн., 2003, с. 33 — 36.)**

Аб праектных хібах рэактара ні слова, кэдэбэшная служба гэта не асягала.

Пра ўсе гэтыя паведамленні работнікаў КДБ Кіеўскай вобласці і Украіны акадэмік Лягаса не ведаў. Затое ён ведаў сваё, таксама дасяжнае адным выбраным — пра многія памылкі праектантаў, канструктараў.

Аб прызнаннях былога намесніка галоўнага інжынера ЧАЭС Анатоля Сцяпанавіча Дзятлава акадэмік ужо не даведаецца, хаця яны ўражваюць:

— Аператыўны персанал станцыі ні ў чым не вінаваты, — сцвярджаў і сцвярджае Анатоль Дзятлаў. — Апошнія гады ў СССР пры самых буйных аварыях каралі адно стрэлачнікаў — дыспетчараў, аператараў, капітанаў, дырэктараў. Створана і дакладна дзейнічае сістэма вываду з-пад адказнасці асноўных віноўнікаў аварыяў, бязладдзя. Манапаліст, міністэрства, стварыў аварыю і сам разбірае, вызначае, каму якія меры пакарання, кантралюе іх выкананне.

**Ні адна камісія, іх было шмат, не ўключала прадстаўнікоў аператыўнага персаналу ЧАЭС, абвінавачаных у аварыі.** Якая магла быць аб'ектыўнасць ад патэнцыйных, а часам і фактычных віноўнікаў катастрофы! Матэрыялы, што абвяргалі версію стваральнікаў РБМК-1000 на чале з прэзідэнтам Акадэміі навук Савецкага Саюза Анатолем Аляксандравым, проста адвергнуты на міжведамасных навукова-тэхнічных саветах. Узначальваў іх другога і сямнаццатага ліпеня 1986 года сам А.П. Аляксандраў. Вывады гэтых нарадаў вывучылі, прынялі за аснову ва Урадавай камісіі па ЧАЭС, Палітбюро ЦК КПСС, Савеце Міністраў СССР, навязалі МАГАТЭ.

Хаця на трыбуне чаргова XXVII з'езду КПСС мелькам сказана, што Палітбюро і Урад не разабраліся ў прычынах Чарнобыльскага выбуху, у работу аналагічных станцыяў па краіне тэрмінова былі ўнесеныя асобныя выпраўленыя змены, фактычна ніхто не пакараў высокіх вінаваўцаў, то бок сістэму, самім сябе.

У 1975 годзе на Ленінградскай АЭС пры аварыі разгерметызаваўся канал на такім жа рэактары, як у Чарнобылі. Быў распрацаваны немалы спіс рэкамендацыяў на павышэнне надзейнасці рэактара, у тым ліку на змяншэнне паравога каэфіцыента рэактыўнасці, стварэнне хуткадзейнай сістэмы аварыйнай засцярогі. Вынік крайне неабходных рэкамендацыяў — нулявы. **Выконваць іх савецкія невінаватаўцы пачалі праз адзінаццаць гадоў, пасля Чарнобыльскай катастрофы.**

Не выправілі недахопы, не выканалі прадпісанні камісіяў 1975, 1983, 1984 гадоў — і ніхто не пакараны. Выканалі б своечасова, катастрофа на ЧАЭС не празвінела б на ўсю планету, гігант СССР не падвіснуў бы над фінансавай прорвай.

Генерал Кітаеў зняпраўдзіў з лічбамі радыяцыйнасці бліз чацвёртага рэактара, падвёў кіраўніцтва Урадавай камісіі, а яно старшыню СМ СССР і генсека, тут жа атрымаў належнае — аплявуху, рэзкае паніжэнне ў званні. Астатні генералітэт усё ацаніў правільна.

Дакладныя запіскі ў многія інстанцыі В.П. Волкава, начальніка групы па надзейнасці і бяспецы атамных станцый інстытута Курчатава, мала каго трывожылі. Задоўга да аварыі на ЧАЭС ён абгрунтоўваў небяспеку выкарыстання рэактара, даваў прапановы па яго ўдасканаленні, паведамляў пра гэта самому Прэзідэнту АН СССР А.П. Аляксандраву, кіраўніку работ па стварэнні рэактара. Не звярталі на іх увагі, калі не клалі пад сукно, то адсоўвалі падалей. Пасля аварыі і яго новых дакладных забаранілі барацьбіту працаваць у інстытуце, нават заходзіць у яго.

Жахлівая халатнасць, злачынная бяздумства. Калі б пасля аварыяў на Ленінградскай АЭС у 1973 і 1975 гадах, пасля вынікаў праблемных пускавых выпрабаванняў у Чарнобылі 1983 года А. П. Аляксандраў і галоўны канструктар М. А. Даляжаль настаялі на абавязковым выкананні міністэрствам уласных прадпісанняў, дабіліся ўдасканальвання рэактара — сусветнай катастрофы на ЧАЭС не было. Чалавецтва і зямны шар да сёння не віселі б на танюсенькай ніточцы можацці — **хутка разагрэецца забетанаваная пад разбураным чацвёртым рэактарам уранавая руда ці не?** Там яе за сто тон. Па адных разліках. Па другіх — пад сто семдзесят. Абрынецца саркафаг над чацвёртым рэактарам хутка ці трохі пасля?

— Пра што думаем мы ўсе, разумныя галавацяпы? — не шэпча, стогне акадэмік Лягаса. — Хлусні ў Чарнобыльскай кашы акіяны. Свечка дагарае, дагарае.

Па словах Анатоля Дзятлава, на рэактары РБМК-1000 не было ні адной так званай засцярогі ад непрафесіяналізму; не чатыры засцярогі, як хуценька мільёнамі тыражавалі савецкія газеты, у тым ліку "Праўда", а ніводнай. Ні ад-ной.

Апраўдваецца вінаваты Дзятлаў, ілжэ? Абвергніце яго няпраўду — фактамі, вывадамі. Лічбамі.

Маўчаць усе, маўчаць. Няма чым крыць гучныя довады Дзятлава, ціхія стогны Лягасы. А гадзіннік уранавы чакае, радыяцыйную рэакцыю не спыніць слоўным абвяржэннем, вокрыкам.

Паравы эфект і рэактыўнасць рэактараў ЧАЭС рэгулююцца каналамі спецыяльных паглынальнікаў. Згодна эксплуатацыйных інструкцыяў. Паводле пазнейшых прызнанняў галоўнага канструктара акадэміка Даляжаля. Парадокс у тым, што ўстаноўленыя на ЧАЭС рэактары спецыяльных дадатковых паглынальнікаў у актыўнай зоне... зусім не мелі. Раней ці пазней аварыя павінна была адбыцца на некіраваным рэактары.

У ноч на 26 красавіка аператар націснуў кнопку аварыйнай аховы. ¨ю звычайна спыняюць рэактар у нармальных умовах. Націснулі на яе, глушылі рэакцыю. І атрымалі выбух. Аварыйная засцярога не глушыць, а ўзрывае рэактар.

Хаос, страх Божы! Пяцідзесяцідвухгадовы Лягаса скрыпіць зубамі ад фізічнага болю, савецкая няпраўда і абыякаўства душаць акадэміка, расцінаюць душу на нітку.

Атрымліваецца, па Дзятлаву, найперш вінаватыя не будаўнікі, не мантажнікі, не вытворцы абсталявання, не работнікі станцыі, — вінаватыя стваральнікі такога рэактара, аляксандраўцы, і канструктары, даляжаляўцы.

*(Працяг у наст нумары.)*

# Акцыя “Чытаем беларускую кнігу”

## (з досведу работы бібліятэк Лідскай РЦБС)

Яшчэ зусім нядаўна каштоўнасць кнігі і чытання ў нас была бясспрэчная. Цяпер у XXI ст. сітуацыя змянілася. Распаўсюджванне электронных СМІ і татальная урбанізацыя грамадства пацягнулі за сабой працэс адыходу ад кніг. А праблемы чытання беларускай кнігі стаяць яшчэ больш востра. Але ніхто не можа аспрэчваць ісціну: людзі, якія не чытаюць, не чытаюць у тым ліку і беларускіх кніг. Па дадзеных сацыялагічных даследванняў колькасць дарослых, якія зусім не чытаюць, павялічылася ў параўнанні з 2008 г. у 1,3 раза. Нават газет сёння не чытаюць 20% беларусаў.

Далучэнне да сістэматычнага чытання застаецца адным з самых сацыяльна значных кірункаў работы бібліятэк Лідскай РЦБС.

Работа Лідскай РЦБС у рамках рэспубліканскай акцыі **“Чытаем па-беларуску”** і абласной акцыі, якая была аб’яўлена Гарадзенскай абласной навуковай бібліятэкай імя Я. Карскага **“Чытаем беларускую кнігу”** на працягу года праводзіцца па трох асноўных блоках, якія былі распрацаваны аддзелам бібліятэчнага маркетынгу цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.

Першы блок - гэта дзейнасць Цэнтральнай раённай бібліятэкі.

На абанеменце бібліятэкі эфектыўна дзейнічае мэтавая праграма **“Гартаючы каляндар”**. Дадзеная праграма разлічана на год, з перспектывай на далейшае развіццё. Чытацкае прызначэнне праграмы - гэта карыстальнікі бібліятэкі і жыхары раёна. Мэтавым прызначэннем праграмы з’яўляецца прыцягненне жыхароў Лідчыны і карыстальнікаў бібліятэкі да чытання беларускай класічнай і сучаснай літаратуры, павышэнне чытацкай актыўнасці і каштоўнага статусу беларускай кнігі і мовы.

У рамках праграмы афармляюцца кніжныя выставы і паліцы, арганізоўваюцца адкрытыя прагляды літаратуры, складаюцца рэкамендацыйныя спісы. Нашы выдавецкія працы карыстаюцца вялікай папулярнасцю не толькі ў бібліятэкараў, але і ў педагогаў, спецыялістаў пазашкольных устаноў.

З мэтай інфармавання не толькі карыстальнікаў бібліятэкі, але і ўсіх жыхароў раёна ў рабоце выкарыстоўваюцца СМІ. Напрыклад, праводзіцца цыкл радыёгутарак “Бібліятэка ля мікрафона”, прысвечаных рабоце бібліятэк па розных кірунках, у тым ліку папулярызацыі беларускай літаратуры, юбілейным датам беларускага літаратурнага календара. Уся інфармацыя знайшла таксама адлюстраванне і на сайце бібліятэкі.

На працягу года праводзіцца прамоўшэн-акцыя (распаўсюджванне рэкламных лісткоў-заклікаў сярод юных карыстальнікаў бібліятэк). На наш погляд, менавіта такая




акцыя выклікае зацікаўленасць, спрыяе фармаванню станоўчага ўспрымання кнігі.

У вялікай зале дзіцячай музычнай школы адбылася літаратурна-музычная кампазіцыя ***“Чароўныя гукі роднай мовы”,*** арганізаваная Цэнтральнай бібліятэкай, у рамках Дня беларускага пісьменства, для вучняў дзесятых класаў СШ №1. Цудоўныя беларускія песні гучалі ў выкананні навучэнцаў музычнай школы. Артысты тэатра Раённага палаца культуры ўвасобілі вобразы Ефрасінні Полацкай, Францішка Скарыны, Францішка Багушэвіча і Максіма Багдановіча.

Для студэнтаў каледжа была арганізавана сустрэча з гарадзенскімі літаратарамі ***“Не знікне цуд прыгожага пісьменства”.*** У гасцях былі Людміла Шаўчэнка, Браніслаў Ермашкевіч, Фёдар Чычкан і старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб’яднання “Саюз пісьменнікаў Беларусі” Людміла Кебіч.

У снежні цэнтральная бібліятэка запрасіць сваіх чытачоў і ўсіх ахвотных на літаратурна-музычныя вечары ***“Нязгасную зоркай ты ў небе Радзімы навекі!”*** (у музычным каледжы) і ***“Глядзі, беларус, каб не згінуць, глядзі ў строгія чыстыя вочы Максіма”*** (у раённым палацы культуры) да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

Другім блокам акцыі **“Чытаем беларускую кнігу”** стаў раённы конкурс, аб’яўлены цэнтральнай раённай бібліятэкай сярод бібліятэк сістэмы па папулярызацыі беларускай літаратуры і роднай мовы ***“Сэрцам роднага слова крапіся”.*** У конкурсе прымаюць ўдзел 15 бібліятэк Лідчыны. Прадстаўляюцца сцэнарныя матэрыялы, фатаздымкі масавых мерапрыемстваў, кніжных паліц і выстаў. Крытэрыямі адзнакі матэрыялаў сталі: інавацыйная дзейнасць бібліятэкі па актывізацыі чытання беларускай літаратуры і літаратуры на беларускай мове, выкарыстанне новых форм і метадаў работы, выніковасць правадзімых мерапрыемстваў (павелічэнне колькасці чытачоў).

Вельмі цікава праводзілася работа ў лялечным тэатры “Пятрушка” Ваверскай сельскай бібліятэкі. Для выхаванцаў дзіцячага садка і вучняў малодшых класаў у рамках акцыі, былі арганізаваны тэатралізаваныя пастаноўкі па беларускіх народных казках, па творах Васіля Віткі, Рыгора Барадуліна, Віталя Вольскага і інш. Усе прадстаўленні тэатра адбываліся на беларускай мове, што, безумоўна, спрыяла выхаванню ў дзяцей глыбокай павагі да роднай мовы, нацыянальнай спадчыны і культуры Беларусі.

Бібліятэкі ўсё актыўней асвойваюць інфармацыйную прастору. Увасабленнем гэтай прасторы ўсё часцей становяцца медыятэкі з іх ідэяй аб’яднання розных носьбітаў інфармацыі, што дае магчымасць карыстальніку перайсці ад камп’ютара і мультымедыя да кніг і часопісаў. Менавіта гэтую задачу: з дапамогай электронных сродкаў прыцягнуць моладзь да сістэматычнага чытання айчыннай літаратуры, зрабіць працэс атрымання ведаў цікавым і карысным, і ставіў перад сабой аддзел бібліятэчнага маркетынгу, калі распрацоўваў сумесны праект са школай ***“Бібліятэка і школа: тэрыторыя чытання”***, які і стаў завяршальным блокам нашай работы.

Цікавасць да літаратурнай спадчыны падтрымліваецца разнастайнымі формамі – экспрэс-віктарынамі, літаратурнымі конкурсамі, акцыямі, сюжэтнымі відэаролікамі ў дапамогу навучальнаму працэсу па вывучэнні беларускай літаратуры, мультымедыйнымі прэзентацыямі і закладкамі і інш.





У рамках праекта ***“Бібліятэка і школа: тэрыторыя чытання”*** акцыя ***“Чытаем па - беларуску”*** праводзіцца сярод вучняў СШ №10, 11, 12, 13, 14, 16.

З мэтай папулярызацыі беларускай мовы і літаратуры ў бібліятэках праходзяць урокі радзімазнаўства і краязнаўства, гульнёва-забаўляльныя праграмы, літаратурныя гадзіны, літаратурна-музычныя кампазіцыі, віктарыны і конкурсы. Многія літаратурныя мерапрыемствы праводзяцца ў рамках школьнай праграмы па беларускай літаратуры. Пытанні для віктарын фармуюцца такім чынам, каб адказы можна было знайсці толькі ў кнізе.

Напрыклад, у выніку супрацоўніцтва ЦРБ і літаратурнага гуртка “Ветразь” СШ №12, які ўзначальвае настаўніца беларускай мовы і літаратуры М.Т. Гурская, была падрыхтавана літаратуразнаўчая праца “Малюю мілую Радзіму...” (вобраз малой радзімы ў творчасці лідскіх паэтаў Дануты Бічэль, Хрысціны Лялько і Івана Саўко). Работа была заяўлена на ўдзел у вучнёўскай навуковай канферэнцыі.

Вучням СШ №10 бібліятэкары гарадскога філіяла №6 прапанавалі стаць удзельнікамі конкурсу і праявіць свае таленты ў розных абласцях:

- напісаць рэцэнзію на любімую беларускую кнігу (для вучняў старэйшых класаў);
- хутчэй за ўсіх прачытаць кнігі з пазакласнага спісу па беларускай літаратуры (для вучняў сярэдніх класаў);
- адлюстраваць на малюнку ці плакаце “чалавека, які чытае” (для вучняў малодшых класаў);
- прыняць удзел у конкурсе аўтарскага верша на беларускай мове (для малодшых класаў).

Мэтай конкурсу аўтарскага верша **“Гучы, мая родная мова!”** было садзейнічанне развіццю літаратурных здольнасцей моладзі, прыцягненне да чытання кніг на беларускай мове з малых гадоў. Настаўнікамі малодшых класаў сярод вучняў 1-4 класаў была праведзена папярэдняя праца па выяўленні зацікаўленых і адборы вершаў да конкурсу.

Кампетэнтнае журы цярпліва выслухоўвала меркаванні прысутных, накіроўвала развагі ў патрэбнае рэчышча, дапамагала зразумець галоўныя думкі аўтараў вершаў. А пераможцамі, амаль аднадушна, былі прызнаны вучаніцы 3”Б” класа Эмілія Мялько і Веранiка Горбач.

Напрыканцы была праведзена бяспройгрышная латарэя **“Мой сябар-кніга!”**. Дзякуючы адміністрацыі, і на сродкі школы для яе правядзення былі набыты кнігі беларускіх аўтараў. Прыняць удзел у ёй маглі ўсе ахвотныя - патрэбна было толькі, у адпаведнасці з умовамі, на выбар:

а) ведаць верш на беларускай мове і выразна яго прачытаць;

б) расказаць пра апошнюю прачытаную кнігу на беларускай мове;

в) цікава распавесці пра вядомага беларуса на роднай мове.

Разам з вучнямі 8-х класаў СШ №16 і іх настаўніцай І.А. Марук бібліятэкары гарадскога філіяла № 6 правялі краязнаўчую гадзіну **“Пачатак усяму – зямля тваіх бацькоў”** з запрашэннем мясцовага паэта Пятра Макарэвіча. Для вучняў 5-х класаў была падрыхтавана літаратурна-музычная кампазіцыя **“Радзімай мовай даражыце - усім, што доля нам дала…”**. На літаратурны вечар **“Свечку памяці запалілі”**, прысвечаны паэту-земляку, чыё імя носіць бібліятэка – Валянціну Таўлаю, былі запрошаны вучні 10-х класаў. Традыцыйным стала ў бібліятэцы святкаванне юбілеяў літаратараў: вечар-партрэт **“Зброяй сатыры, зброяй праўды”** да 115-годдзя Кандрата Крапівы; літаратурнае падарожжа **“Праўда жыве ў творах Івана Мележа”** для вучняў 10-х класаў СШ №14,экскурс-вандраванне па творах Віталя Вольскага для чытачоў-дзяцей.

Разам са словамі ўдзячнасці слухачы самі выказвалі прапанову: зрабіць такія сустрэчы традыцыйнымі - так усхвалявалі, зацікавілі, узбагацілі зносіны з жывым паэтычным словам. І мы убачылі, што нашы “камп’ютарныя” дзеці умеюць шанаваць і любіць паэзію, што ім таксама ўласцівы цёплыя пачуцці да роднага слова.

Цікава і з карысцю прайшоў сумесны семінар са школьнымі бібліятэкарамі **“Беларуская літаратура: імёны, асобы, будычыня”**. Пра развіццё і сучасны стан беларускай мастацкай літаратуры распавядала настаўніца беларускай літаратуры і мовы СШ №10 Жэбрык А.Э. Метадыст АБМ Шылкоўская І.М. дала кансультацыю па пытаннях папулярызацыі беларускай літаратуры ў масавых бібліятэках. Завяршыўся семінар паказальным мерапрыемствам – мультымедыйнай літаратурнай імпрэзай **“Гімн беларускай кнізе”.**

Заслугоўвае ўвагі і дзейнасць ***бібліобуса***. На працягу года дзейнічае акцыя ***“Беларускай кнізе – сельскі адрас”***. Былі арганізаваны выставы твораў беларускіх аўтараў, на якіх прадстаўлена літаратура не толькі для дарослага чытача, але і для дзяцей. Папулярнасцю сярод вяскоўцаў карыстаецца і беларуская перыёдыка.

Цікава праходзілі асабістыя гутаркі каля выстаў **“Дэбют у паэзіі”, “Вершаў любімыя радкі”, “Беларускаму слову пакланюся”**. Вялікім попытам карыстаюцца беларускія гістарычныя раманы. Бібліятэкар дапамагала сваім чытачам знайсці, менавіта тую кнігу ці верш, якія б адпавядалі настрою і чытацкаму густу сельскіх чытачоў. Незвычайным быў зварот ад дарослых гаспадароў з некалькіх навакольных вёсак - знайсці цікавыя каляровыя ілюстрацыі да беларускіх казак. Вынікам з’явілася ажыўшая казка на прысядзібным двары: тут вам і дзед з бабкай, печ, жывёлы і, нават, чорт.

Вынікам нашай працы ў рамках акцыі стаў выпуск ***мультымедыйнага дыска “Чытаем беларускую кнігу”***, які папоўніць медыятэкі нашых бібліятэк. У яго склад увайшлі разнастайныя па форме і зместу медыйныя прэзентацыі, а таксама сюжэтныя відэаролікі па творах беларускіх аўтараў, якія вывучаюцца ў рамках школьнай праграмы.



**Змест:**

**Медыйныя прэзентацыі:**

- *Літаратурная імпрэза* ***”Гімн беларускай кнізе”;***
- *Электронная выстава* ***“Беларускія кнігі-юбіляры 2011года”;***
- *Завочнае падарожжа* ***“Літаратурныя музеі Максіма Багдановіча”;***
- *Закладка-дадатак* ***”Шануйце родную мову”*** *( да літаратурна-музычнай імпрэзы* ***“Чароўныя гукі роднай мовы”;***
- *Гульня-віктарына* ***”Сустрэча з Міхасём Лыньковым”;***
- *Віктарына* ***“Беларуская казка-розуму падказка”;***
- *Літаратурная віктарына* ***“Уладзімір Караткевіч: праз гісторыю ў сучаснасць”;***
- *Пазнавальная віктарына* ***“Скарбы беларускіх ведаў”***
- *Мовазнаўчая віктарына* ***”Слова роднае, жывое, гаваркое”.***

**Сюжэтныя відэаролікі:**

- *Н. Гілевіч* ***”Край беларускі”;***
- *С. Грахоўскі* ***“Зямля мая”;***
- *Я. Колас* ***“Ручэй”;***
- *А. Коршак* ***“Кляновы ліст”.***

Акцыя яшчэ не завяршылася, вынікі не падведзеныя, але ў нас склалася прыемнае пачуццё, што ўсе нашы сустрэчы з беларускай кнігай сталі для чытачоў сапраўдным святам, а кнігі - самымі жаданымі падарункамі.

А наперадзе нас чакае Год кнігі і ў першую чаргу Год беларускай кнігі.

***Святлана Крывец,***
*загадчык аддзелу бібліятэчнага маркетынгу Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.*

# Палёт белай птушкі

## Вечарына з нагоды 150-годдзя Маглены Радзівіл

Адзначу, што ўся юбілейная дзея разгортвалася перад партрэтам Магдалены Радзівіл работы мастака Алеся Цыркунова (ён выкананаў яго са здымка, згаданага ў нумары «Нашага слова» за 21 снежня 2011 г.). Прысутным быў паказаны прафесійны, з любоўю выкананы слайд-фільм, падрыхтаваны супрацоўнікамі аддзела сацыякультурнай і інфармацыйнай дзейнасці сумесна з аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі (у чым можна пераканацца па спасылцы http://www.slideboom.com/presentations/464150/Magdalena-Radzivill). З экспазіцыяй кніг, выдадзеных на грошы Магдалены азнаёміла загадчыца рэдкіх кніг і рукапісаў Алена Цітавец. Надавала вагу вечарыне прысутнасць намесніка Прэзідыума НАНБ Аляксандра Цыганова. Сярод выступоўцаў былі акадэмік-сакратар аддзялення НАН Беларусі Аляксандр Каваленя, старшыня камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў акадэмік Міхаіл Касцюк, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ Ірына Багдановіч, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс, вядомы беларускі мастак Алесь Цыркуноў, дырэктар Уздзенскага раённага гістарычна-краязнаўчага музея Ірына Віаленцій, прафесар БДПУ імя М. Танка Анатоль Федарук, кандыдат гістарычных навук Андрэй Унучак. Прысутным быў пра-дэманстраваны каляндар з выявай Магдалены Радзівіл, які на свае грошы выдаў прысутны ў зале жыхар Узды, краязнаўца Аляксандр Нікітка. У зале таксама прагучала навіна аб тым, што да юбілею Магдалены Радзівіл перакладзены са старапольскай мовы і выдадзены на беларускай рэдкі гістарычны і літаратурны помнік канца XVII – пачатку XVIII стагоддзя – кніга яе далёкага родзіча «Успаміны Крыштафа Завішы».





Фармат вечарыны не дазволіў падрабязна распавесці пра рукапісныя ўспаміны самой мецэнаткі. Яны адшуканыя за мяжой, і я з задавальненнем упершыню прадастаўляю чытачам «Нашага слова» іх першыя паўтары старонкі:

*«Я нарадзілася ў 1861 годзе, гэта значыць на пачатку паўстання ў Польшчы, і пішу я гэтыя ўспаміны праз шэсцьдзесят гадоў у час рускай рэвалюцыі, якая пачался ў 1917* [годзе] *і якая, здаецца, працягнецца яшчэ доўга. Між тым я была сведкам беспарадкаў, якія наступілі за вайной у Маньчжурыі.*

*Да моманту майго нараджэння яшчэ існавала прыгоннае права, большай часткай служкі маіх бацькоў былі ў мінулым прыгоннымі і адной з задач, якія я стаўлю перад сабой пры напісанні гэтых успамінаў з'яўляецца выпраўленне агульнапрынятых уяўленняў аб прыгоне. На гэты конт распаўсюджвавецца так многа экстравагантных версій, што мне хацелася б прадставіць карціну нашай краіны такой, якой я яе ведала ў той час, калі не існавалі гэтыя паклёпныя версіі.*

*Я вырасла ў Польшчы, дзе прыгоннае права было зліквідавана яшчэ ў эпоху Напалеона, але паколькі сяляне не атрымалі ніякага забеспячэння адносіны з імі мала змяніліся. Яны працявалі жыць у халупах і карыстацца землямі, якія належалі нам законна. Яны плацілі натурай, працай, кожны павінен быў працаваць некалькі дзён на тыдзень на нашых фальварках. Але бацька мой не быў палякам, і ён жыў у Польшчы толькі таму, што мая маці, сама полька, думала пасяліцца на землях свайго мужа ў Белай Русі. Сям'я майго бацькі, Кежгайлы-Завішы, уласна была родам з Літвы, адкуль яна перахала на Белую Русь пасля завявання гэтай краіны Вялікімі Князямі Літвы ў XIII стагоддзі. Паколькі ўся гэта мясцовасць з'яўлялася часткай Вялікага Княства Літоўскага, і буйныя ўласнікі большай часткай паходзілі з Літвы, то мой бацька заўсёды лічыў сябе ліцвінам, хаця і не размаўляў на літоўскай і, наколькі я ведаю, ніколі не быў у гэтай краіне, за выключэннем Вільні. Злучэнне гэтых двух нацыянальнасцяў, якія размаўлялі на абсалютна розных мовах, было глыбокім, і было цяжка вызначыць межы кожнай з краін. Два зямельныя ўладанні, якія мой бацька меў у Менскай губерні (абодва ў Ігуменскім павеце) на адлегласці 140 вёрстаў адно ад другога, лічылася што знаходзяцца адно – у Літве, а другое – у Белай Русі, хаця Менская губерня – само сэрца Белай Русі, і ніхто ў ёй не размаўляе на літоўскай. Самі сяляне казалі звычайна, што тая карова, ці конь былі пасланыя з Літвы ў Белую Русь, і наадварот. Хаця, з другога боку, я чула, як жыхары маёнтка, прызнанага беларускім, ў паўголаса (паколькі рускі ўрад не любіў гэтых успамінаў) казалі: «Мы – у Літве». Калі дадаць, што ўсе вышэйшыя класы апалячыліся, што каталіцкая рэлігія называлася увогуле «польскай верай», то можна ўявіць наколькі поўнай была блытаніна, што панавала ў галовах. Народ выходзіў з гэтай сітуацыі па-свойму. Паколькі урад ніколі не дапускаў існавання Белай Русі, і яшчэ таму, што толькі вышэйшыя класы прэтэндавалі на літоўскую нацыянальнасць, то селянін, калі яго пыталіся пра нацыянальнасць, заўсёды адказваў: «Я ні рускі, ні паляк, я – тутэйшы...».*

Як бачым пачатак успамінаў княгіні носіць даволі высокі публіцыстычны ўзровень. Яна не раз у іх падкрэслівае розніцу паміж беларускасцю свайго роду і агульнапрынятым у той час азначэннем, што высакародныя людзі не могуць паходзіць з беларускага, халопскага асяроддзя, а выключна з палякаў ці іншаземцаў. Поўна ў успамінах згадак прыватнага, а, часам, і інтымнага характару, якія раскрываюць адносіны паміж бацькамі, выхавацелямі і дзецьмі, малюючь шлях сталення, вытокі нацыянальнай свядомасці Магдалена Іванаўны.

Пэўне, вечарына, што адбылася ў гонар юбілею Магдалены Радзівіл, толькі пачатак яе сучаснага прызнання. Яе жыццяпіс будзе поўніцца новымі знаходкамі. Упэўнены, што памяць аб ёй з часам будзе ўвасоблена ў бронзе ці мармуры колеру белага лебедзя – яе радавога герба – які ўзлятае над Беларуссю.

***Віктар Хурсік.***

# Прэзентацыя кнігі



23 снежня ў Менскай абласной бібліятэцы імя А.С. Пушкіна адбылося вельмі цікавае мерапрыемства. А менавіта прэзентацыя кнігі "Жыццё айчыне, гонар нікому"... Усё распачалося з цудоўнага выступу заслужанага аматарскага калектыву "Пастараль"!

Пасля з цікавымі прамовамі выступалі: Інэса Кароль, Ігар Гатальскі, Адам Мальдзіс, Анатоль Федарук, Міхась Сучака і іншыя. Усе прысутныя на мерапрыемстве атрымалі кнігу бясплатна...

У выданні змешчаны матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 180-годдзю з дня нараджэння **Эмерыка фон Гутэн-Чапскага** (1828-1896) – славутага калекцыянера старажытнасцей і грамадскага дзеяча Расійскай імперыі, уладальніка земляў у ваколіцах Мінска...

Зборнік складзены з тэкстаў дакладаў удзельнікаў канферэнцыі. Гэта – Захар Шыбека. Лявон Акаловіч, Уладзімір Дзянісаў, Іван Сацукевіч, Анатоль Валахановіч. Дзяніс Лісейчыкаў... Аўтары прыводзяць шэраг новых звестак аб жыцці і дзейнасці трох пакаленняў прадстаўнікоў роду фон Гутэн-Чапскіх, звязаных з беларускай зямлёй, аб гісторыі сядзіб Прылукі і Станькава. А таксама аб лёсе каштоўных калекцый Эмерыка фон Гутэн-Чапскага! Быў паказаны цікавы фільм па тэме кнігі, які агучыў Лявон Акаловіч...

Навуковая канферэнцыя, пра якую ідзе гаворка адбылася 16-18 сакавіка 2009 г. Да кнігі прыкладзена электронная версія кнігі на СД–дыску, а яе наклад 300 асобнікаў!

Думаю, што кніга спадабаецца гісторыкам, краязнаўцам, навукоўцам і ўсім, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй і славутымі землякамі!

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык, журналіст.*

# Прыроджаны краязнавец

З Яўгенам Сяргеевічам Гучком мы пазнаёміліся ў адной з бібліятэк г. Менска, дзе бываем па суботах у адзін і той жа час... 21 ліпеня 2010 г. паэт парадаваў, паведаміўшы, што напісаў новую кнігу "Ах, Родчанка!.." але кніга была выдадзена толькі ў снежаньскія дні 2011 года.. Выданне пабачыла свет у выдавецтве "Рыфтур". Яго наклад 100 асобнікаў! Літаратар Яўген Гучок напісаў кнігу, прысвечаную жыццю Рыгора Віктаравіча Родчанкі (1929-1994 гг.), выдатнага слуцкага паэта і краязнаўца, чыё імя неабходна належным чынам ушанаваць за яго значны ўнёсак у літаратурную і навуковую скарбонку Беларусі. Так ён адшукаў Язэпа Дылу – грамадскага і дзяржаўнага дзеяча, пісьменніка. Дзякуючы намаганням Рыгора Віктаравіча была знойдзена магіла выдатнага беларускага пісьменніка XIX ст. Альгерда Абуховіча-Бандынэлі, творчая спадчына якога, на жаль, амаль не захавалася! Прысвечаная яго жыццю кніга была выдадзена Родчанкам у 1984 г.




Найстарэйшай школе Беларусі (сённяшняя гімназія №1 г. Слуцка) была прысвечана яго наступная кніга выдадзеная ў 1985 годзе. У пачатку 1990 –х гадоў выйшла ў свет цудоўная кніга "Слуцкая старасвеччына", дзе расказваецца пра гісторыю горада і найбольш выдатных людзей, чыё жыццё і творчасць звязаныя са Слуцкім краем... Тады ж падрыхтаваны зборнік "З вечнага, у аснову якога пакладзены багаты этнаграфічны матэрыял. Ім жа знойдзена і страчаная паэма "Файнбергарда" пачатку XIX с т., якая ў пэўным сатырычным стылі апісвала тагачасную гарадскую эліту.

Родчанка быў добрым знаўцам Случчыны. Аб гэтай зямлі ён напісаў шмат кніг, матэрыялаў у прэсу! Ён збіраў па вёсках народныя спевы, шукаў патрэбную інфармацыю па архівах, гутарыў са старажыламі. І галоўнае, перадаваў сваю любоў да роднай зямлі ўсім навакольным і зацікаўленым...

За інтэлектуальна-энцыклапедычную дасведчанасць у многіх галінах ведаў аб фізічным і духоўным існаванні чалавека І. Навуменка (акадэмік АН Беларусі) заўсёды, вітаючыся з Р. Родчанкам услых і сур'ёзна падкрэсліваў, што ён вітаецца з сапраўдным акадэмікам! Дадамо ад сябе, з акадэмікам папулярным і народным!

Кніга Я. Гучка аздоблена добрымі фота! Аўтар выказвае шчырую падзяку І.А. Ціткоўскаму за слушныя заўвагі і парады пры падрыхтоўцы рукапісу гэтай кнігі... Яўген Гучок плануе дабіваца перайменавання вуліцы Сацыялістычнай у Слуцку, на якой жыў Родчанка, у яго гонар! Кніга будзе цікавай, для людзей, неабыякавых да гісторыі Беларусі.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык журналіст.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
**http://nashaslova.mns.by/**
**http://pawet.net/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 9.01.2012 г. у 10.00. Замова № 2.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 3100 руб., 3 мес.- 9300 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.